НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 12 (753) 28 сакавіка 2012

# Наша Ніва

www.nn.by

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзіч

## Тысячы людзей выйшлі на Дзень Волі

Людзі маніфеставалі са шматлікімі самаробнымі плакатамі.
Старонка 3.



# Санкцыі: удар па беларускіх мільянерах

Еўрасаюз прыняў новы пакет абмежаванняў супраць лукашэнкаўцаў. Старонкі 4—5.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Фота з архіва. Юрый Чыж (у цэнтры) на вечары памяці Руслана Салея.

**Воля і пятля**

### Каваленку этапавалі ў вар'ятню

Там яго кормяць прымусова.
**Старонка 7.**



**Рэпартаж**

### Край Беларусі. Поўнач: Асвея

Жыццё беларусаў на самай перыферыі. Якое яно?
**Старонкі 10—11.**



**Літаратура**

### «Калі пачвары не стане, я вярнуся ў Мінск»

Альгерд Бахарэвіч прэзентаваў «Шабаны». **Старонка 9.**



**Жыццё**

### Як нараджаць без страху

Беларускія радзільні адыходзяць ад савецкіх стандартаў. **Старонка 6.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Патрыярх Кірыл трапіў у кватэрны скандал

Сцвярджаюць, што патрыярх валодае **супердарагой кватэрай**, у якой прапісаная свецкая жанчына.

Імя Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла згадваецца ў сувязі з кватэрным скандалам, які скончыўся судом. У працэсе высветліліся некаторыя акалічнасці. Яны прымушаюць задумацца, ці не парушыў Кірыл шэраг зарокаў. Аднак царква называе ўсё гэта спробамі дыскрэдытацыі.

### Залаты пыл

Былы міністр аховы здароўя, вядомы расійскі хірург-кардыёлаг Юрый Шаўчэнка набыў у прэстыжным раёне Масквы кватэру. У часе яе рамонту пашкодзілі кватэру знізу: засыпалі пылам.

У судзе бок пацярпелых ад рамонту прадстаўляла нейкая Лідзія Лявонава, якая, як высветлілася, была прапісаная ў той «засыпанай» кватэры. А належыць кватэра... Уладзіміру Міхайлавічу Гундзяеву. А гэта ж свецкае імя патрыярха Кірыла.

Суд першай інстанцыі налічыў жыхарам кватэры зверху 20 мільёнаў расійскіх рублёў (650 тысяч даляраў) адшкадавання за рамонт. Цяжба працягваецца, але выбухнуў і скандал.

> «Патрыярх Кірыл не мае дачынення да судовай спрэчкі вакол кватэры» »

### Адкуль грошы?

Кватэра ў так званым «Доме на Набярэжнай» з відам на сабор Хрыста Збаўцы і Крэмль каштуе каля 1,5 мільёна даляраў. У кадастравых ведамасцях пазначана, што кватэра была куплена прыкладна гадоў 8 таму.

За патрыярхам і раней заўважалі схільнасць да дарагіх рэчаў. У свой час украінскія журналісты сфатаграфавалі яго гадзіннік коштам 30 тысяч еўра.

### Хто такая Лявонава?

СМІ спрабуюць зразумець, кім даводзіцца патрыярху Лідзія Лявонава. Часопіс «Огонёк» адкапаў, што Лідзія Міхайлаўна Лявонава была дачкой кухара Ленінградскага абкама КПСС і што іх з патрыярхам, адносіны звязваюць 30 гадоў.

Калі ў 1969 Уладзімір Гундзяеў прыняў манаскі пострыг, ён атрымаў імя Кірыл і даў чатыры зарокі: паслушэнства, бясшлюбнасці, адмовы ад асабістай уласнасці і няспыннай малітвы. Цяпер журналісты пытаюцца, ці не парушае патрыярх Кірыл некаторыя з гэтых зарокаў?



### Афіцыйна

Кіраўнік прэс-службы Маскоўскага патрыярхату Уладзімір Вігілянскі лічыць, што пытанні аб кватэры патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла неэтычныя, бо закранаюць ягонае прыватнае жыццё. А кіраўнік Сінадальнага Інфармацыйнага аддзела Уладзімір Лягойда назваў гэтую інфармацыю «чарговым прыкладам брудных піяртэхналогій». Патрыярх Кірыл не мае дачынення да судовай спрэчкі вакол кватэры ў «Доме на набярэжнай», заявіў Лягойда.

**Сямён Печанко**

## З 63% гадавых — да 35%

Банкі рэзка **змяншаюць стаўкі** рублёвых дэпазітаў.

Цяпер найлепшая прапанова на працяглы (паўгода і больш) тэрмін з фіксаванай стаўкай — 37% гадавых. Такую прыбытковасць гарантуе «Хоўм-Крэдыт-Банк».

З кароткатэрміновых укладаў з фіксаванай стаўкай больш за ўсё можна атрымаць ад «Беларусбанка», які прадае ашчаджальныя сертыфікаты на два месяцы пад 47% гадавых.

Што да ўкладаў з плаваючай стаўкай, то яшчэ можна адшукаць доўгатэрміновыя прапановы вышэйшыя за 50%. Аднак са змяншэннем стаўкі рэфінансавання, анансаванай Надзеяй Ермаковай, іх прыбытковасць будзе істотна змяншацца.

Гэта адбываецца ўжо цяпер. Напрыклад, кліенты «Дэльта-Банка» у верасні 2011 года маглі пакласці рублі на дэпазіт «Жыві яскрава!» пад 63% гадавых з штомесячнай капіталізацыяй. З 22 красавіка стаўка па гэтым укладзе зменшыцца да 35%. Пры гэтым дакласці грошы на дэпазіт нельга з пачатку сакавіка.

**Ягор Марціновіч**

## Попыт на даляры зноў перавысіў прапанову

Нацбанк **трымае курс** інтэрвенцыямі.

Такую выснову робіць interfax.by, грунтуючыся на звестках Беларускай валютна-фондавай біржы. У чым можа быць прычына? Як піша «Белгазета», «паказчыкі грашовай масы пайшлі ў гару тэмпамі, якія бянтэжаць». У лютым аб'ём наяўных грошай (паказчык M0) павялічыўся на 12,7%, рублёвая грашовая маса (M2) — на 9%. Большага паказчыка грашовай масы ў гісторыі Беларусі не было.

**Праца**

## «Наша Ніва» шукае перакладчыка з беларускай на англійскую для працы на поўную стаўку

Праца штодзённая, калектыў беларускі і малады, аплата стабільная. Звесткі пра сябе дасылаць на nn@nn.by з пазнакай «Вакансія перакладчыка». Прэтэндэнтам давядзецца на сумоўі перакласці на спробу артыкул. Рэкамендацыі пажаданыя, але не абавязковыя. Студэнты старшых курсаў будуць дапушчаны да сумоўя пры ўмове гатоўнасці працаваць з поўнай загрузкай. Патрабуецца нармальнае (гэта значыць выдатнае) веданне беларускай і англійскай моваў.

### Сціcла

**Івашкевіча вінавацяць у падрыве суверэнітэту**

Генпракуратура папярэдзіла палітыка Віктара Івашкевіча пра недапушчальнасць дзеянняў, накіраваных на «падрыў дзяржаўнага суверэнітэту». Гэта звязана з яго выказваннямі пра неабходнасць увядзення нафтавага эмбарга супраць беларускага рэжыму, пакуль не выпусцяць палітвязня-галадоўніка Каваленку. Івашкевіч, у сваю чаргу, разглядае магчымасць звароту ў пракуратуру з просьбай ацаніць дзеянні беларускіх уладаў на прадмет падрыву дзяржаўнага суверэнітэту.

**Паветраная вайна між Беларуссю і Расіяй**

Масква хоча павелічэння колькасці рэйсаў, Мінск — зніжэння. У панядзелак гэта прывяло да забароны на прыём бартоў і затрымкі вылетаў. Пасля бакі прыйшлі да часовага пагаднення. Яно мае дзейнічаць да чацвярга.

**Беларусы бягуць з краіны**

Паўтары тысячы беларусаў папрасілі прытулку ў Еўропе ў 2011. У той час, як у Беларусі прытулак папрасілі 90 чалавек. Гэта звесткі з даклада Вярхоўнага камісара ААН у справах уцекачоў. Лічба ўцекачоў з Беларусі вырасла ў 1,5 разу проці 2010.

**З юрыстаў і эканамістаў возьмуць па поўнай**

Мінадукацыі разглядае пытанне аб поўнай аплаце за навучанне ў ВНУ на шэрагу спецыяльнасцяў. Найперш гэта тычыцца юрыстаў і эканамістаў.

**Большасць ВНУ пяройдуць на чатырохгадовае навучанне**

Аб гэтым паведаміў міністр адукацыі Сяргей Маскевіч. Асобныя будуць заставацца яшчэ на двухгадовую магістратуру.

**31 сакавіка ў Мінску суботнік**

Горад прыбяруць пасля зімы.

**У Мінскім раёне знайшлі звалку мёртвых свіней**

Яна знаходзіцца паміж вёскамі Слабада і Дворышча. Калі фоты з'явіліся ў інтэрнэце, Дэпартамент ветнагляду накіраваў апэратыўна зрэагаваў. Свіней засыпалі зямлёй, высвятляюцца абставіны.

**СГ**

### Самае чытанае на сайце nn.by 21—27 сакавіка

1. 5000 чалавек выйшлі на Дзень Волі ў Мінску
2. Еўрасаюз пашырыў чорны спіс на 29 кампаній і 12 асобаў
3. Лукашэнка пра Шушкевіча: Дастаткова аднаго факта, каб ён закрыўся
4. Лукашэнка назваў расстрэл Кавалёва і Канавалава асабістай трагедыяй
5. Край Беларусі. Поўнач: Асвея
6. У «Юнівесце-М» Тарнаўскага працуе Ганна Лукашэнка
7. Патрыярх Кірыл трапіў у кватэрны скандал
8. У часе шэсця на Дзень Волі жанчына сутыкнулася з тралейбусам (фота)
9. У гандлёвым цэнтры «Сталіца» пад купал запусцілі бел-чырвона-белы сцяг — фота
10. Жыццё іншых. Беларусь вачыма замежнікаў

# Пяць тысяч выйшлі на Дзень Волі ў Мінску

Людзі маніфеставалі са **шматлікімі самаробнымі** плакатамі.

«З надвор'ем зноў не шанцуе. Д'ябальства нейкае», — замест вітання кажа старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. На бязлітаснасць неба спасылаліся многія, хто выйшаў у нядзелю 25 сакавіка на акцыю да Дня Волі.

Сонца праглядалася толькі на хвіліны. А потым сек у твары мокры снег і дождж. Тым не менш, яшчэ за гадзіну да пачатку шэсця на пляцоўцы Акадэміі навук людзі пачалі збірацца. Спецназаўцы яшчэ нават не паспелі ўсталяваць агароджы. Такі закон — акцыя ж дазволеная.

Старшыня аргкамітэта мерапрыемства Уладзімір Колас гуляў пад бел-чырвона-белым парасонам. Людзі асцярожна ўздымалі сцягі. Азіраючыся па баках: ці не прый-дзецца адбіваць іх ад хлопцаў у чорным.

Усіх удзельнікаў здымалі на відэакамеры. Граф Аляксандр Прушынскі з іроніяй вылоўліваў аператараў і цягнуў іх, каб здаць службам правапарадку.

Чым бліжэй да шэсця, тым болей сцягоў уздымалася ў неба. Людзей большала. Многія не заходзілі за металічныя парэнчы, дзе ўжо і так было тлумна.

Дзеці радасна размахвалі сцяжкамі і балонікамі. Смелыя хлопцы і дзяўчаты з «Маладога фронту» нарабілі крэатыўных плакатаў. Былі і іншыя праявы людской творчасці.

Падчас шэсця пляскалі ў далоні (помнім вечары апладысментаў) ды спявалі купалаўскае «Кроўю, потам, не быць скотам». Але пэўная напруга ўсё адно заставалася. Ад часу разгону Плошчы гэта была першая дазволеная вялікая акцыя.

Былі дробныя паскудствы: затрымалі гукаўзмацняльную апаратуру, за якую раней заплацілі Мінгарвыканкаму. Але большых правакацый не было. Усё прайшло спакойна.

На мітынг засталося не так і многа ўдзельнікаў. Ізноў гэты бар'ер агароджаў, хоць спецназаўцы і правяралі людзей досыць карэктна.

Палітыкі гаварылі пра байкот выбараў (Івашкевіч, Рымашэўскі), нацыянальную ідэю (Мілінкевіч) і вернасць ідэалам БНР (Янукевіч).

Летась, пасля зімовага пагрому апазіцыйных асяродкаў, акцыі на Дзень Волі не было зусім. Сёлетняя ж пераўзышла чаканні многіх.

**Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Дзень Волі быў найбольш масавай акцыяй апазіцыі ад часоў Плошчы.**



SVABODA.ORG

**Акцыя была дазволенай, таму многія прыйшлі са смелымі лозунгамі.**


AP

**Удзельнік акцыі корміць вавёрку.**

**Ахвяра Дня Волі**

Дырэктара Беларускага радыётэлевізійнага перадаючага цэнтра Андрэя Караіма звольнілі пасля таго, як ён дазволіў выкарыстанне гукаўзмацняльнай апаратуры падчас мітынгу 25 Сакавіка. Аднак тэхніку арганізатары мітынгу так і не скарысталі, бо на Бангалор яе не пусціла міліцыя.

**Моладзь нарабіла плакатаў і расцяжак.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


ЕЎРАРАДЫЁ

**Жыхары навакольных дамоў пазітыўна рэагавалі на бел-чырвона-белыя сцягі.**

# Чорны спіс беларускіх мільянераў

Еўрасаюз прыняў новы пакет **візавых і эканамічных абмежаванняў** супраць лукашэнкаўцаў.

Спіс невыязных беларусаў 23 сакавіка вырас яшчэ на 12 чалавек. У краіны Еўрасаюза не змогуць патрапіць восем сілавікоў (у тым ліку супрацоўнікі СІЗА КДБ, пры якіх там утрымліваліся палітвязні), суддзя і пракурор па справе Каваленкі, а таксама два бізнэсоўцы — Юрый Чыж і Анатоль Тарнаўскі. Апроч таго, супраць 29 кампаній, якія належаць ім і мільярдэру Уладзіміру Пефціеву, уведзеныя эканамічныя абмежаванні. Хто ж гэтыя тры багатыры?

Самы багаты бізнэсовец Беларусі Уладзімір Пефціеў скалаціў свой мільярд — у столькі часам ацэньваецца ягоны капітал — на гандлі зброяй. Справа няхітрая, але прыбытковая. Тэхніку, якая засталася ў Беларусі з часоў СССР, прадаваў менавіта гэты загадкавы выхадзец з украінскага Бярдзянска. Ягоны доступ да ўлады многія тлумачаць блізкасцю з ранейшым прэм'ер-міністрам Беларусі Вячаславам Кебічам.

Яшчэ ў чэрвені 2011 года ў чорны спіс Еўрасаюза былі ўключаныя ягоныя кампаніі «Белтэхэкспарт» (гандаль зброяй), «БТ Тэлекамунікацыі» і латарэя «Спорт-Пары». Санкцыі моцна ўдарылі па бізнэсе Пефціева, які доўгі час жыў на Мальце. Пайшлі чуткі, што бізнэсовец быў гатовы заплаціць мільён даляраў таму, хто выкрасліць ягонае імя з чорнага спісу.

А цяпер спіс папоўніўся і астатнімі яго актывамі. Еўрапейцы пабачылі грошы Пефціева ў інтэрнэт-правайдары «Дзелавая Сетка», спіртзаводзе «Аквадзіў», кампаніях «Сен-Ко», «Спецпрыборсэрвіс», «Тэхнасаюзпрыбор» і іншых.

**Ягор Марціновіч**

**З пяці нафтавых кампаній Чыжа толькі дзве трапілі пад санкцыі?**

Гэта «Трайпл» і «НафтаХімТрэйдынг». Між тым, паводле звестак радыё «Свабода», існуюць яшчэ «Трайпл энерга», «Белнафтагаз» і «Неанафта». Таму санкцыі ЕС пакуль маюць, хутчэй, сімвалічны характар.


GOALS.BY

Юрый Чыж на футболе, 25 сакавіка. Супраць яго «Дынама» таксама ўвялі санкцыі.

**Чыжу належаць гіпермаркеты «Прастор», запраўкі, месцы адпачынку і будкампаніі**

Кіраўніка групы кампаній «Трайпл» Юрыя Чыжа часта бачаць у кампаніі Аляксандра Лукашэнкі і нездарма называюць адным з самых блізкіх да кіраўніка дзяржавы бізнэсоўцаў.«Фінансуе рэжым Лукашэнкі праз свой холдынг «Трайпл», актыўны ў многіх сектарах беларускай эканомікі… Спартовыя пазіцыі, якія ён займае, у прыватнасці старшыня праўлення футбольнага клуба «Дынама-Мінск» і старшыня Беларускай Федэрацыі барацьбы, пацвярджаюць яго блізкія сувязі з рэжымам», — гаворыцца ў заяве Еўрасаюза. Юрый Чыж нарадзіўся ў 1963 у шматдзетнай сям'і на Бярозаўшчыне. Кажуць, што ў яго сям'і ёсць баптысты. Папрацаваўшы на Мінскім трактарным заводзе, з развалам СССР ён заняўся бізнэсам. Пачаў з аптовага гандлю, а з цягам часу стварыў уласную вытворчасць — шклопакетаў і безалкагольных напояў.

Але сапраўднае багацце да Чыжа прыйшло, калі на пачатку 2000-х яму дазволілі заняцца нафтаперапрацоўкай. З таго часу бізнэс-імперыя разрасталася ва ўсе бакі. Вось толькі частка кампаній Чыжа, супраць якіх уведзеныя санкцыі Еўропы: Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў, гіпермаркеты «Прастор», «Акватрайпл» (прадпрыемствы па выпуску напояў), рэстаран «Ракаўскі бровар», спартыўны комплекс «Лагойск», фармацэўтычная кампанія «Трайплфарм» і нават футбольны клуб «Дынама» (Мінск).


Юрый Чыж носіць плацінавы гадзіннік Ulysse Nardin цаной у 400 тысяч даляраў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Пефціеву ідзе даход, у тым ліку, ад гарэлкі «Аквадзіў» і латарэі «Спорт-Пары»

**Асобы, дададзеныя ў «чорны спіс»**

**1. Алена Жук** — суддзя Першамайскага раённага суда ў Віцебску. Асудзіла Сяргея Каваленку на 2 гады і 1 месяц турэмнага тэрміну.

**2. Дзмітры Лутаў** — пракурор на працэсе Сяргея Каваленкі.

**3. Хазалбек Атабекаў** — палкоўнік, камандзір спецыяльнай брыгады ўнутраных войскаў Уручча, адзін з кіраўнікоў разгону дэманстрацыі 19 снежня 2010.

**4. Алег Чарнышоў** — палкоўнік, службовец антытэрарыстычнага аддзела КДБ «Альфа». Адзін з кіраўнікоў разгону дэманстрацыі 19 снежня 2010.

**5. Аляксей Арлоў** — палкоўнік, старшыня СІЗА КДБ. Еўрасаюз назваў яго адказным за «жорсткае, бесчалавечае стаўленне да ўдзельнікаў дэманстрацыі 19 снежня 2010».

**6. Іван Санько** — маёр, старшы следчы КДБ. На думку Еўрасаюза, «фальсіфікаваў доказы па справе Плошчы».

**7. Павел Траулька** — падпалкоўнік, былы службовец вайсковай контрвыведкі КДБ, цяпер старшыня прэс-службы новаўтворанага Следчага камітэта Беларусі. На думку Еўрасаюза, «фальсіфікаваў доказы па справе Плошчы».

**8. Дзмітры Сухаў** — падпалкоўнік, службовец вайсковай контрвыведкі КДБ. На думку Еўрасаюза, «фальсіфікаваў доказы па справе Плошчы», адказны за парушэнне правоў чалавека праз ужыванне празмернай сілы.

**9. Сяргей Алейнікаў** — маёр, супрацоўнік шклоўскай калоніі. На думку Еўрасаюза, «парушаў права на карэспандэнцыю і сустрэчы палітычных зняволеных».

**10. Вадзім Шамёнаў** — капітан, супрацоўнік шклоўскай калоніі. На думку Еўрасаюза, «парушаў права на карэспандэнцыю і сустрэчы палітычных зняволеных, ужываў пагрозы з мэтай атрымаць прызнанні».

Агулам «чорны спіс» уключае 243 асобы на чале з Аляксандрам Лукашэнкам і 32 кампаніі.

# «Раскруціўшыся на нафце, цяпер зарабляюць на нерухомасці»

Эксперт: нафтаперапрацоўка перастае быць **залатой жылай** беларускай эканомікі.

Групы кампаній «Трайп» і «Юнівест-М», супраць якіх Еўрасаюз увёў эканамічныя абмежаванні, яднае перадусім іх шматгадовы ўдзел у перапрацоўцы нафты. Хто яшчэ працуе на нафтавым рынку, і чаму на ім не з'яўляюцца новыя прыватныя кампаніі?

### Закрытая квота

У пачатку і сярэдзіне 2000-х, калі аб'ёмы бязмытавай расійскай нафты, якая пастаўлялася ў Беларусь, набылі гіганцкія аб'ёмы, былі дзясяткі кампаній, ахвотных перапрацоўваць яе. Для расійскіх карпарацый працаваць у нашай краіне было больш прыбыткова, чым у сябе на радзіме, праз асаблівасці заканадаўства. У выніку за 2007—2010 экспарт нафты і нафтапрадуктаў перавысіў $30 мільярдаў.

Дазвол на працу даваў асабіста Аляксандр Лукашэнка. Яшчэ ў 2003 ён загадаў стварыць урадавую камісію на чале з Анатолем Тозікам, якая б прымала заяўкі ад кампаній на імпарт і перапрацоўку нафты. Некаторыя з удзельнікаў камісіі, сышоўшы з урада, сталі дарадцамі ў расійскіх кампаніях... Праўда, канчатковае рашэнне — якая квота дастанецца якой кампаніі — заставалася непасрэдна за Лукашэнкам.

### Новыя правілы

Яшчэ некалькі гадоў таму ў краіне налічвалася каля 20 аператараў, але цяпер іх колькасць змяншаецца. «Нафтаперапрацоўка была прыбытковай некалькі гадоў таму. Але сітуацыя змянілася. Праца на ўнутраны рынак цяпер не прыносіць прыбытку», — тлумачыць эксперт у галіне энергетыкі Таццяна Манёнак. За 2010 сальда Беларусі па гандлі нафтай і нафтапрадуктамі было адмоўным — мінус $1,5 мільярда. У 2011 сітуацыя яшчэ пагоршала — з улікам вяртання мытаў у бюджэт Расіі сальда склала мінус $2 мільярды.

«Я не думаю, што для Юрыя Чыжа нафтаперапрацоўка — гэта галоўная крыніца прыбытку. Ягоны бізнэс разгалінаваны, што дапамагае пераадольваць крызісныя сітуацыі. «Трайпл» дасягнуў поспеху і праз пэўную блізкасць да ўладаў, і праз эфектыўную працу менеджараў», — мяркуе Таццяна Манёнак. Больш за тое, па яе словах, у апошні час «Трайпл» мог і не займацца нафтаперапрацоўкай. Тое самае і з «Юнівест-М» Анатоля Тарнаўскага — кампанія, раскруціўшыся на нафце, цяпер зарабляе на іншым — на нерухомасці.

### Роўна падзелены рынак

Замест беларускіх прыватнікаў, доля якіх на рынку нафтаперапрацоўкі зменшылася да мінімуму, на авансцэну выйшлі расійскія карпарацыі. Згодна з заканадаўствам, перапрацоўкай могуць займацца толькі кампаніі-рэзідэнты, таму расійцы дзейнічаюць праз свае мясцовыя прадстаўніцтвы. «Лукойлу», «Татнафце», ТНК і іншым кампаніям, якія завозяць сваю сыравіну на нафтаперапрацоўчыя заводы Беларусі, належыць 50% квотаў. Другую палову атрымлівае чацвёрка дзяржаўных кампаній. Гэта «Беларуская нафтавая кампанія», «Беларуснафта», «Нафтан», «Мазырскі НПЗ».

**ЯМ**

# Анатоль Тарнаўскі — трэці «кашалёк Лукашэнкі»

У ягонай кампаніі намеснікам дырэктара працуе жонка Дзмітрыя Лукашэнкі.



Офіс «Юнівеста» на вуліцы Гікалы ў Мінску.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Чарговым «кашальком Лукашэнкі» Еўрасаюз палічыў Анатоля Тарнаўскага. Асобы папярэднікаў, Уладзіміра Пефціева і Юрыя Чыжа, у беларускім грамадстве на слыху, але хто такі Тарнаўскі?

## Нафтавы партыйшчык

62-гадовы грамадзянін Расіі Анатоль Тарнаўскі нарадзіўся ў Данецку. Закончыўшы мясцовы Політэхнічны інстытут, ён працаваў у нафтаздабычы, адначасова ўздымаючыся па партыйнай лесвіцы.

З развалам Савецкага Саюза Тарнаўскі ўладкаваўся ў «Расейска-ўкраінскае нафтавае таварыства», прасоўваючы расійскую нафту на ўкраінскі рынак.

Першыя кантакты з нашай краінай наладзіліся ў яго ў 1998. Беларусь і Расія ўтварылі сумеснае прадпрыемства «СлаўНафта» (галоўны актыў — Мазырскі НПЗ), у якім Тарнаўскі даслужыўся да пасады віцэ-прэзідэнта па сувязях з СНД.

Мільянер і цяпер большую частку свайго жыцця праводзіць у Расіі. Ён з'яўляецца старшынёй рады дырэктараў нафтагаздабываючай «МКД-ГРУП», а таксама — як прыватная асоба — акцыянерам маскоўскага «Гранд Інвест Банка».



CHURCH.BY

Тарнаўскага (у цэнтры) лічаць галоўным праваслаўным мецэнатам у краіне. Справа ад яго — мітрапаліт Філарэт.



ФОТА З САЙТА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ

Ганна Лукашэнка (справа) у кампаніі Людмілы Сідорскай (другая справа) і графіні Спэнсар.

## Афшорная справа

Тым не менш, вернемся да яго ўзаемаадносінаў з Беларуссю. У 2001 будучы мільянер стварыў кампанію «Юнівест-М», якая занялася перапрацоўкай расійскай нафты ў Беларусі.

Па якой схеме ён працуе цяпер? Нафта, якую «МКД-Груп» здабывае на сваім радовішчы ў Ханты-Мансійскай і Ямала-Ненецкай аўтаномных акругах, пастаўляецца на Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод праз «Юнівест-М» ці кампанію «Юніс Ойл». Дарэчы, санкцыі ўведзеныя супраць абедзвюх. Часам перапрацоўваецца і сыравіна іншых вытворцаў. Нарэшце, атрыманыя нафтапрадукты прадаюцца на Захад. Аб'ём абароту такі вялікі, што кампаніі Тарнаўскага з года ў год трапляюць у дзясятку найбуйнейшых падаткаплатнікаў краіны.

## Прэзідэнцкі спартыўны партнёр

Зарабіўшы ў беларускім нафтавым афшоры свае першыя мільёны, Тарнаўскі пачаў развіваць іншыя накірункі свайго бізнэсу. Праца ў нашай краіне працягваецца шмат у чым за кошт плённага супрацоўніцтва з Дзмітрыем Лукашэнкам, сынам кіраўніка дзяржавы. Дарэчы, намесніцай па маркетынгу генеральнага дырэктара «Юнівест-М» працуе жонка Дзмітрыя, Ганна Лукашэнка.

Тарнаўскі — адзін з партнёраў Прэзідэнцкага спартыўнага клуба Лукашэнкі-сына, нароўні з «Трайплам», Беларускай калійнай кампаніяй.

Паралельна «Юнівест-М» атрымлівае элітныя ўчасткі Мінска для забудовы. На месцы турмы на вуліцы Кальварыйскай, напрыклад, скончаецца будаўніцтва гіганцкага жылога комплексу «Каскад» коштам $350 мільёнаў. Кватэры ў ім можна купіць дагэтуль — за $1150—1450 за квадратны метр. Праўда, продажы ідуць не вельмі актыўна. Сярод плюсаў — блізкасць да цэнтра горада, але і мінусаў хапае. У сотні метраў праходзіць чыгунка, паблізу будуецца і гіганцкая транспартная развязка.



Комплекс «Каскад» на месцы турмы.

## Забудоўшчык для выбраных

Галоўным будаўнічым праектам Тарнаўскага меўся стаць элітны квартал «Натынгем». На прэзентацыю прыходзіў і Дзмітрый Лукашэнка. Задумвалася, што за некалькі кіламетраў ад МКАД паўстане раён «для абраных», з вытанчанай англійскай архітэктурай, гімназіямі для будучай эліты, а таксама першы ў краіне гольф-клуб. Пакуль што на месцы будоўлі вядуцца толькі падрыхтоўчыя працы, але забудоўшчык — «ЮнівестБудІнвест» — ужо трапіў пад санкцыі. Цяпер напрамую прывезці з Еўропы будаўнічыя матэрыялы не ўдасца. Дарэчы, побач з «Натынгемам» свой мікрараён, «Зялёны Бор», збіраўся ўзводзіць і Юрый Чыж. Увогуле, яны шмат у чым дзейнічаюць паралельна: нафтапрадукты, будаўніцтва, рэстаранны бізнэс.

У рэгіёнах «Юнівест-М» мае трохзоркавы гатэль «СлавінаСпорт» (Жлобін), а таксама збіраецца будаваць забаўляльны цэнтр «Экватар» у Брэсце. Як і Чыж, Тарнаўскі мае ва ўласнасці рэстараны — прадстаўніцтвы Bella Rosa і недарагую сетку піцэрый «Ліманчэла».

У прамысловасць мільянер пакуль актыўна не ідзе, яму належыць толькі Смалявіцкі завод жалезабетонных вырабаў.

## Праваслаўны мецэнат

Як і кожны набліжаны да Лукашэнкі бізнэсовец, Тарнаўскі нясе на сабе пэўную сацыяльную нагрузку. Ён з'яўляецца спонсарам хакейнага і гандбольнага клубаў «Дынама». Атрымаў мільянер і культурную спадчыну. Сядзіба Ваньковічаў у Мінску, рэканструкцыя якой надаўна скончылася, належыць «Юнівесту-М».

Не засталася ўбаку і праваслаўная царква. За дапамогу ў будаўніцтве новых храмаў Тарнаўскі ўганараваны крыжам Еўфрасінні Полацкай. Узнагароду з рук Філарэта мільянер атрымаў у сувязі са сваім 60-годдзем.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

### Сярэдні заробак — $358

Паводле падлікаў Белстата, у лютым сярэдні заробак у краіне склаў 2 964 тысячы рублёў. У параўнанні са студзенем ён вырас на 85 тысяч рублёў. Пры пераліку ў даляры атрымліваецца $358.

### Ермакова: Купюры 500 тысяч рублёў не будзе

«Калі раптам сітуацыя складзецца такім чынам, што нам спатрэбіцца купюра ў 500 тысяч рублёў, то больш правільна тады будзе правесці дэнамінацыю», — заявіла старшыня Нацыянальнага банка Надзея Ермакова.

### Новы банк — кіпрскі

90% акцый банка «Біт-Банк», зарэгістраванага нядаўна ў Беларусі, будзе належыць кіпрскай інвестыцыйнай кампаніі. Рэшту акцый атрымае яе беларуская даччыная структура «Лакі Керэнсі».

### Акцыі ў свабодным продажы

У маі-чэрвені 2012 Мінскі завод ігрыстых вінаў плануе правесці публічнае размяшчэнне акцый. Кожная будзе каштаваць 170 тысяч рублёў. Праўда, дывідэнды выплачваюцца мізэрныя — у 2010 годзе было 435 рублёў на акцыю.

### Швецыя можа адмовіцца ад наяўных грошай

Скандынаўская краіна, якая першай у 1661 г. увяла ў зварот папяровыя грошы, лічыць, што банкноты зжылі сябе і больш не патрэбныя. Цяпер доля наяўных грошай у эканоміцы складае ўсяго 3%. У Еўрасаюзе ў цэлым гэты паказчык утрая большы.

# Як навучыцца нараджаць без страху

Беларускія радзільні **адыходзяць ад савецкіх** стандартаў.

Курсы маладых бацькоў, партнёрскія роды — старэйшае пакаленне пра гэта толькі чула. Для многіх сённяшніх маладых бацькоў гэта стала неабходнасцю. І калі хатнія роды ў Беларусі па-ранейшаму па-за законам, то падрыхтоўчыя курсы ладзяць і прыватныя кансультанты, і радзільні. Карэспандэнт «НН» адвучыўся на курсах, а таксама высветліў, што рухае тымі, хто адважваецца нараджаць дома.

### Сертыфікат бацькоў

Каб прысутнічаць на родах, будучыя бацькі павінны наведаць адпаведныя курсы пры радзільнях і атрымаць сертыфікат. Такі дакумент мы з жонкай атрымалі ў Мінскай абласной радзільні, наведаўшы курсы «Роды без страху».

Акушэрка Таццяна Сямёнаўна Зянькевіч праводзіць заняткі перадродавай падрыхтоўкі. Часцей за ўсё на курсы запісваюцца людзі з вышэйшай адукацыяй, якія вырашылі сістэматызаваць свае веды, апісвае сярэднестатыстычнага слухача акушэрка. Часта на курсы прыходзяць мамы, якія нараджаюць не ўпершыню. Штомесяц тут навучаецца каля ста чалавек.

Праграма «Роды без страху» паўстала пры ўдзеле галандскіх спецыялістаў 10 гадоў таму. У Нідэрландах падобныя методыкі выкарыстоўваюць не адно дзесяцігоддзе. Нейкі час абласная радзільня была піянерам у перадродавай падрыхтоўцы, цяпер такое навучанне практыкуецца шмат дзе і ў рэгіёнах. Аднымі з першых тут сталі практыкаваць партнёрскія роды, а таксама вертыкальныя.

**Прысутныя на родах маладыя таты часцей плачуць, чым млеюць »**



Партнёрскія роды робяцца ўсё больш папулярнымі ў беларусаў.

### І тэхніка дыхання

Будучыя мамы занялі месцы ва ўтульным пакоі і ўпотайкі разглядаюць адна адну. Я — адзіны будучы бацька на нашым курсе, таму адчуваю на сабе падвойную ўвагу. Прызнаюся шчыра, што досыць скептычна ставіўся да курсаў, расцэньваючы іх як фармальны допуск да сумесных родаў. І з першых хвілінаў заняткаў зразумеў, што моцна памыляўся.

«Страх — самы галоўны наш вораг у часе нараджэння дзіцяці», — пачала Таццяна Зянькевіч. Часта прычынай гэтага страху з'яўляецца недасведчанасць. Таццяна Сямёнаўна падрабязна расказала, што чакае маладых бацькоў у самы адказны момант. І навучыла, як сябе паводзіць у залежнасці ад сітуацыі. Галоўнае — перамагчы страх, настроіцца на пазітыўны лад — гэтыя парады ішлі чырвонай ніткай скрозь усе заняткі.

Першы дзень курсаў прысвечаны тэорыі: якія змены адбываюцца ў арганізме цяжарнай жанчыны; як правільна есці ў апошнія тыдні перад родамі; што такое родавыя прадвеснікі і калі насамрэч пара збірацца ў радзільню.

На другі дзень будучых мамаў і татаў вучаць тэхніцы дыхання. Так, і татаў таксама, калі яны хочуць не толькі прысутнічаць на родах, але і дапамагаць. Гэта вельмі важна ў першы перыяд родаў — у часе схватак.

### І фільм пакажуць

Акрамя таго, жанчын вучаць кантраляваць боль пры схватках, а таксама выбіраць аптымальнае становішча для родаў. Тут акцэнт робіцца на вертыкальных родах, якія некалькі гадоў практыкуюцца ў абласной радзільні. Будучыя бацькі вучацца рабіць перадродавы масаж.




Так выглядаюць сучасныя родавыя залы. Такія ёсць ва Украіне.

На трэці дзень вывучаюцца завяршальныя перыяды родаў. Па жаданні аўдыторыі дэманструецца фільм пра партнёрскія роды ў адной з аўстрыйскіх клінік з каментарамі лектара.

Акрамя заняткаў па перадродавай падрыхтоўцы, будучым мамам прапануюцца заняткі па лячэбнай фізкультуры, кансультацыі з псіхолагам.

### Ад грудзей да садка

Людміла Губская — прыватны кансультант. На курсах яна вучыць у тым ліку тэхніцы груднога кармлення і догляду за малым.

На курсы Людмілы Губскай я не патрапіў, але меў там надзейнага агента — сваю жонку. Самай каштоўнай была частка лекцый, у якіх кансультант расказвала пра тое, што будучых мамаў чакае ў радзільні: што ўзяць з сабой, чаго чакаць ад персаналу, як сябе паводзіць у крытычных сітуацыях.

### Чаму жанчыны нараджаюць дома

Галоўным матывам звычайна з'яўляецца незадаволенасць радзільнямі.

Наста Хоміч-Базар двойчы нараджала дома. Да нараджэння першай дачкі яна падрыхтавалася так, што сама магла чытаць лекцыі пра гэта. Галоўнае — не дзе нараджаць, а як, перакананая яна. Наста перажывала, што ў радзільні ёй маглі стымуляваць роды, а яна хацела натуральнага працэсу. «Гэта маё дзіця. І нараджаю я, а не дактары».

### Савецкая спадчына

У Беларусі па-ранейшаму моцная савецкая акушэрская школа, расказаў мне адзін мінскі доктар. У ёй увесь працэс прыстасаваны для зручнасці працы менавіта акушэраў. Адчуванні маці тут на другім плане. Адсюль і гарызантальныя роды, якія пярэчаць самой прыродзе і даўно мала дзе практыкуюцца. Ад саветаў засталіся антураж і арганізацыя працэсу: халодныя кафляныя сцены, забытыя на Захадзе гігіенічныя працэдуры для парадзіхі і забароненая да апошніх гадоў прысутнасць мужа на родах. А чаго вартая тэрміналогія! Нованароджанага нашы медыкі называюць плодам, але не чалавекам.

На Захадзе ўсё круціцца вакол будучай мамы. Яна нараджае так, як ёй зручна. І акушэр мусіць пад яе падладжвацца. У ЗША папулярныя роды ў памяшканнях, якія нагадваюць не радзільню, а нумар у прыстойным гатэлі. У Скандынавіі для родаў выкарыстоўваюць спартзалы.

Зрэшты, адзначае суразмоўца, у Беларусі таксама бачныя зрухі да лепшага.

### Асцярожна, пакрысе

Таццяна Зянькевіч згодная, што родныя сцены — найлепшы варыянт. Яна прыводзіць папулярнае меркаванне, што роды як фінальную стадыю працэсу трэба праводзіць у такіх жа ўмовах, як і самую першую. Але ці многія з вас змаглі б зачаць дзіця ў радзільнай зале пад наглядам дактароў? — задае яна рытарычнае пытанне. Аднак хатнія роды тояць у сабе і вялікую рызыку, кажа акушэрка. «У радзільні ёсць рэанімацыя, а хто дапаможа вам дома?» У Беларусі нельга наняць карэту «хуткай дапамогі», каб яна дзяжурыла пад вашымі вокнамі на ўсялякі выпадак.

### На шведскай сцяне

І ўсё ж беларусы таксама пераймаюць навінкі. У родавай зале Мінскай абласной радзільні ўсталявалі шведскую сцяну, тут можна нарадзіць на адмысловым крэсле (такую спецыяльную мэблю вельмі часта робяць самі бацькі). Сістэма змяняецца, дзякуючы прагрэсіўным медыкам і цікаўным маладым бацькам.

**Сямён Печанко**

**Нетрадыцыйны спосаб родаў у Мінскай абласной бальніцы**

В радзале ў кутку зладзілі спецыяльнае месца для вертыкальных родаў: шведская сценка на абедзве сцяны, а між іх сядзенне. Жанчына сядае і ўпіраецца рукамі ў ніжнія папярэчыны шведскай сценкі. Пад парадзіху ставяць вялікі тазік з пялюшкамі, акушэрка з доктарам сядзяць і пільнуюць працэс, і ў патрэбны момант акушэрка падхоплівае немаўля.

# Маскевіч: Выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі вернем на беларускую мову

«Такая **задача пастаўлена**».

«Мы будзем імкнуцца да таго, каб ужо з новага навучальнага года беларуская мова вярнулася на ўрокі па гісторыі і геаграфіі роднага краю», — кажа міністр адукацыі Сяргей Маскевіч.

Пераход на выкладанне гісторыі Беларусі на расейскую мову адбыўся ў 2006. Беларуская мова амаль цалкам знікла з урокаў гісторыі. А беларускамоўныя падручнікі былі замененыя новымі.

У «Зімовай школе студэнцкай журналістыкі» сёлета адзін з удзельнікаў папытаўся ў Маскевіча, чаму гісторыя Беларусі не выкладаецца на роднай мове. На што міністр прапанаваў прагаласаваць. Толькі пару чалавек з больш чым 200 студэнтаў выказаліся за расейскую мову. Маскевіч паабяцаў улічыць пажаданні.

Летась гісторыю Беларусі на беларускай мове на цэнтралізаваным тэставанні пісалі толькі 33% абітурыентаў.

**ЗП**

# Сяргея Каваленку этапавалі ў вар’ятню

Магчыма, яго ўжо пачалі **прымусова карміць**.

Жонка палітвязня Алена не ведае, хто прыняў такое рашэнне.

**«НН»: Чым абумоўлены пераход Сяргея ў псіхіятрычнае аддзяленне пры калоніі «Віцьба-3»?**

**Алена Каваленка:** Я раней атрымала ліст з Дэпартамента выканання пакаранняў МУС, у якім паведамлялася, што мужа абследаваў псіхіятр і ў яго нібыта вызначана страта адэкватнага псіхічнага стану. Потым мне сказалі, што будзе збірацца камісія, рэаніматолага выклічуць, каб вырашаць, ці пераводзіць яго ў звычайную бальніцу ці ў вар’ятню. Але паўтыдня мне дурылі галаву з гэтай камісіяй, а яна так і не сабралася. А начальнік ДВП МУС Сяргей Працэнка ў пятніцу патлумачыў, што мужа ўсё-такі перавядуць у псіхіятрычнае аддзяленне для абследавання.

**«НН»: Чыё гэта было рашэнне?**

**АК:** Працэнка сказаў, што гэта не рашэнне камісіі, як павінна быць. Так вырашыў доктар, прозвішча якога мне адмовіўся назваць.

**«НН»: Як ён трымаецца?**

**АК:** Вельмі схуднелы, знясілены, амаль не рухаецца: падымаецца толькі ў прыбіральню. Калі я да яго прыйшла на спатканне — доўга яго чакала, пакуль ён дайшоў. Рухі яму даюцца з вялікай цяжкасцю. Цяпер ён важыць 48 кілаграмаў. На этапе рэчы свае несці не мог, дапамагалі канваіры і вязні.



«Муж знясілены, амаль не рухаецца» »

Алена Каваленка папрасіла Лукашэнку злітавацца над мужам. З трыбуны мітынгу 25 Сакавіка, Мінск.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«НН»: Адміністрацыя прасіла Вас пераконваць мужа спыніць галадоўку?**

**АК:** Адміністрацыі ўсё роўна.

**«НН»: Сяргею працягваюць прымусова ставіць кропельніцы з глюкозай?**

**АК:** Так, працягваюць. А цяпер яшчэ будуць карміць праз зонд.

**Сяргей Макарэвіч**

Сяргея Каваленку асудзілі на два гады і адзін месяц за ўхіленне ад адбыцця пакарання. Да гэтага прысуду ён быў пакараны трыма гадамі «хатняй хіміі» за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй ёлцы 7 студзеня 2010 у Віцебску. Пасля затрымання 19 снежня 2011 актывіст абвясціў галадоўку, якую трымаў 30 дзён. Пасля яго пачалі карміць прымусова. Непрацягы час ён еў сам. Калі 21 лютага пачаўся суд, Сяргей аднавіў галадоўку.

# На канцэрце затрымалі сотню юнакоў

Хапун адбыўся сталічным **клубе «Ё-Маё»** .

Затрыманні здарыліся на канцэрце «Ежа замес бомбаў» 24 сакавіка. Спецназаўцы ўварваліся ў памяшканне і забралі каля сотні чалавек. Адзін з затрыманых на канцэрце, журналіст Улад Пятнік, апісаў здарэнне на сваёй старонцы ў Фэйсбуку.

«Некаторых прысутных паставілі тварамі да сцяны, а іншых паклалі на падлогу. Увесь час хадзілі людзі ў цывільным і здымалі ўсё на камеру».

«Спачатку пачалі выводзіць дзяўчат. Пасля мужчын. Ланцужком, рукі за галаву, з тычкамі ў спіну». Улада завялі ў аўтазак, паставілі на калені, рукі загадалі пакласці на лавы ўздоўж сценак.

Унутры Цэнтральнага РАУСа ў затрыманых бралі адбіткі пальцаў, сліну для ДНК, хто не адмовіўся. Запаўнялі тлумачальныя. Цікавіліся, ці маюць яны дачыненне да анархісцкага руху.

Частку людзей адпусцілі, іншых асудзілі да 2 сутак адміністрацыйнага арышту ці да штрафаў у 5 б.в.

Гэта не першы выпадак, калі пад выглядам пошукаў наркотыкаў міліцыянты ўрываюцца ў месцы збору моладзі. Раней былі аблавы супраць актывістаў руху «Еўрапейская Беларусь» і «Ліцвінскага клуба». У абодвух выпадках міліцыянты шукалі наркотыкі, але нічога не знаходзілі.

**Кастусь Матушыч**

### Ежа замест бомбаў

Гэта не звязаныя паміж сабой групы актывістаў, якія бясплатна раздаюць ежу тым, хто ў гэтым мае патрэбу. Адна з асноўных задач міжнароднай ініцыятывы — прыцягнуць увагу грамадства да праблем мілітарызму, беднасці і голаду.

# Звольненая настаўніца зарэгістравалася рэпетытарам



Другі год **Наталлю Ільініч** не бяруць у школу.

«Цэлы год я спрабавала ўладкавацца на настаўніцкую працу, пакуль нарэшце не зразумела, што ў сённяшніх умовах шлях у школу для мяне закрыты, — сказала звольненая летась настаўніца гісторыі Наталля Ільініч. — Зарэгістравалася ў падатковай інспекцыі рэпетытарам. Займаюся са школьнікамі з Асіповічаў, Мар’інай Горкі, Мінска. Кліентаў пакуль не шмат, але выжыць можна».

Наталля Ільініч працавала настаўніцай у школе ў вёсцы Талька Пухавіцкага раёна з 1985 года, як прыехала па размеркаванні. У студзені 2011 з ёй не працягнула кантракт дырэктар школы Наталля Меркуль. Спн. Ільініч звальненне звязвае са сваёй грамадскай пазіцыяй: у 2010 яна збірала подпісы за кандыдатаў у прэзідэнты Рыгора Кастусёва і Алеся Міхалевіча. 5 студзеня 2011 у яе кватэры супрацоўнікі КДБ і МУС правяліператрус.

Пасля свайго звальнення жанчына пачала судзіцца. Прайшла ўсе прыступкі. Але вынік аказаўся прадказальным — нават з Вярхоўнага Суда на сваю касацыйную скаргу настаўніца атрымала адказ, што яе звальненне было законным.

**СМ**

# Самародкам

Ян Грыб.

Напішыце палітвязням,
Хай з іх кожны чуе:
«Ночка цёмная на свеце
Вечна не пануе».

Як Спартак пазваў да волі,
Што рабы сказалі?
Да яго і жалю й болю,
Волі не жадалі.

Меней дзесяці адсоткаў
З ім пайшлі змагацца,
А апошнім дзевяноста
Ў рабстве лепш застацца.

Эх, народ наш беларускі,
Спакайней жывецца,
Як нічога, акром чаркі,
Будзе не хацецца.

Напішыце, хай іх роспач
Не кране ніколі,
Хай жа знаюць: акром чаркі,
Хочам мы і волі.

Напішыце палітвязням,
Гэтым самародкам:
Нас усё-такі паболей
Дзесяці адсоткаў.

# Бойка фанатаў у Гомелі: 21-гадовы трапіў у кому

Першы тур першынства азмрочаны **каляфутбольным інцыдэнтам**.


GOALS.BY

21-гадовы Яўген цяпер знаходзіцца ў рэанімацыі нейрахірургічнага аддзялення гомельскай бальніцы. Урачы кажуць, што ён у вельмі цяжкім стане.

Бойка здарылася 25 сакавіка ў цэнтры Гомеля а 11.30. Ёсць розныя версіі інцыдэнта. Міліцыя кажа, што была бойка з удзе-лам двух гамельчукоў і двух гасцей горада. У аднаго з апошніх на шыі вісеў шалік «Дынама». Тым не менш, пакуль праваахоўнікі не пераканаввед, што бойка адбылася менавіта на глебе фанацтва.

Сведкі падзей сцвярджаюць, што на Яўгена накінулася не менш чым шасцёра чалавек, якія і збілі хлопца да паўсмерці. У нападаючых не было ніякіх фанацкіх атрыбутаў. Аднак «дынамаўцы» перакананыя, што гэта былі «хулзы» «Гомеля».

Міліцыя затрымала па справе двух хлопцаў. Заведзеная крымінальная справа па артыкуле 339 «Хуліганства». Абвінавачаным гамяльчанам 21 і 19 гадоў. Ім пагражае да шасці гадоў зняволення.

Што датычыць самога матча, то «дынамаўцы» з гамельчукамі галоў забіць так і не змаглі.

**Зміцер Панкавец**

# Віцэ-спікер Гумінскі: «Патрэбны закон аб барацьбе з дармаедствам»


**Віктар Гумінскі.**

У савецкія часы па артыкуле «дармаедства» **былі пакараныя** дзясяткі тысяч чалавек.

Віцэ-спікер палаты прадстаўнікоў Віктар Гумінскі выступае за распрацоўку законапраекта аб барацьбе з дармаедствам. На ягоную думку, прыняцце падобнага закона спрыяла б умацаванню грамадскай бяспекі і дысцыпліны.

Зрэшты, пазіцыю Гумінскага не падтрымалі сакратар Рады бяспекі Леанід Мальцаў і старшыня Мінаблвыканкама Барыс Батура. Яны мяркуюць, што сённяшняе заканадаўства і так дазваляе людзям стаць на шлях выпраўлення.

У савецкія часы па крымінальным артыкуле «дармаедства» былі пакараныя дзясяткі тысяч чалавек. У тым ліку лаўрэат Нобелеўскай прэміі, паэт Іосіф Бродскі. Артыкул аб дармаедстве існаваў да развала СССР.

Гэта не першая спроба вяртання ў савецкае мінулае. Летась на прадпрыемствах краіны дысцыпліну спрабавалі ўмацаваць «андропаўскімі метадамі». Патрабавалі спісы працоўных заводаў, каб не было прагулаў, рабілі аблавы ў магазінах. Але хутка эксперымент выгас.

**ЗП**

# Жонка Макея сабрала поўную залу

На сольны канцэрт актрысы і тэлевядучай Веры Палякоўвай, што прайшоў 23 сакавіка ў КЗ «Мінск», завіталі сябры, а таксама падначаленыя яе мужа — кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Макея.

Вольных месцаў амаль не было. Дарэчы, самы дарагі білет на Палякову каштаваў 50 тысяч рублёў і раскупілі іх даволі хутка. Многія прыйшлі з кветкамі.

Вера Палякова амаль дзве гадзіны правяла на сцэне. Яна шмат спявала (выключна ўжывую), чытала вершы, маналог са свайго апошняга спектакля «Сродак Макропуласа», расказвала пра сябе і сваю сям'ю. За вечар актрыса змяніла 3 строі.

**«Народная воля»**



**Фотафакт**



**«Міс замежніцай БДУ» стала туркменка Хатамава**

Такі конкурс праводзіўся ўпершыню. У ім бралі ўдзел студэнткі з Кітая, Туркменістана, Турцыі, Нігерыі з сямі факультэтаў БДУ. Першае месца заняла туркменка Гунча Хатамава, студэнтка другога курса факультэта міжнародных адносін.

**Сямён Цыбульскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Грош цана

Прамільгнула і зноў схавалася пад абвалам больш важкіх падзей абвестка аб тым, што за ўздым на Курган Славы пад Мінскам трэба будзе плаціць грошы: школьнікам 1500 рублёў, дарослым аж 3 тысячы.

Даведаўшыся пра гэта, я кінуўся шукаць старую фотку, хаця і так яна адразу ўзнікла перад вачыма: 1967 год, слізкая пад першай лістападаўскай шэранню гліністая зямля, недзе ззаду ўзвышаецца ўжо даволі вялізны капец, па якім коўзаецца бульдозер, а наперадзе мы, некалькі маладых журналістаў «Знамёнкі». Толькі што кожны з нас, стрымліваючы пачуцці ад удзелу ў захаванні народнай памяці, высыпаў на той капец вядро навезенага пяску. Трохі пазней мы даведаліся, што дзеля гэтага пяску, перамяшанага з глінай і дробнымі каменьчыкамі, была зрытая натуральны гара пад Смалявічамі, на якой узвышаліся рэшткі ці то старажытнай крэпасці, ці то царквы...

Старэйшы з нас — Ігар Садоўскі, вядомы на той час спартовы аглядальнік газеты. Ну, як старэйшы? Мо гадоў на 8—9. Разам з маці ён здолеў збегчы з Мінскага гета ў Налібоцкую пушчу, да партызан... Калі яго хвалілі напачатку 70-х, наперадзе неслі на чырвонай падушачцы партызанскі медаль. На пахаванні і памінках гаварылі, што Ігара дагнала вайна. Было неверагодна шчымліва...

Чаму ж сёння я не магу намацаць тую шчымлівую чалавечую сувязь паміж вайной, што дагнала Ігара, і тым вядром пяску, якое ён высыпаў разам з намі на патрыятычнае збудаванне?

Ці не таму, што з таго вядра пачало набіраць сваю фальшывую моц услаўленне быццам бы гераізму і мужнасці народа, а насамрэч — услаўленне ўлады, якая скарысталася пачуццямі людзей, іх памяццю дзеля свайго манументальнага ўсталявання, здавалася, на векі...

Чаму ж сёння я не магу намацаць простую чалавечую сувязь паміж тым першым вядром і вайной, што дагнае апошніх яе ахвяр?

Ці не таму, што і сённяшняя ўлада, учапіўшыся, як ёй здаецца, у вечнасць, аж заходзіцца ў сутаргах афіцыйнага патрыятызму, які раве танкамі на парадах, танчыць пад рытмы гімна на плошчах і б'е галовамі цэглу ў дні немаведама якіх свят, лезе ў вочы псеўдапатрыятычнымі лозунгамі на дахах дамоў, фальшывымі выявамі звышзадаволеных жыцём, усмешлівых ветэранаў на так званых білбордах...

## Рабіць з вайны крыніцу патрыятычных пачуццяў — амаральная справа

З дэманстрацыяй такога культу патрыятызму мы працягваем сутыкацца на кожным кроку. Нават Хатынь няўлоўным пераводам маральных стрэлак становіцца падставай для нейкай мазахісцкай фанабэрыі — у каго яшчэ было такое! Не гавару ўжо пра «лінію Сталіна»...

Наперадзе, безумоўна, Расія з яе нястрымным уздымам патрыятычнага духу. Але ж і лукашэнкаўская ўлада са сваімі прыхільнікамі працягвае лічыць усё расійска-патрыятычнае родным, надзімаецца, як быццам і сёння распасціраецца «ад Буга да Курыл».

Гістарычная напышлівасць у той ці іншай меры ўласціва любой дзяржаве, вялікай асабліва. Але аднойчы мне здарылася наведаць у Вашынгтоне Музей амерыканскай гісторыі, дарэчы, бясплатны. Там поўна школьнікаў — без усялякіх экскурсіяў і ідэалагічнага прымусу яны вольна гуляюць па залах, пазнаюць гісторыю Амерыкі, ваенную ў тым ліку. Увіць іх у якасці суб'ектаў «ваенна-патрыятычнага выхавання» немагчыма. Упэўнены, што такога словазлучэння няма нідзе ў цывілізаваным свеце — настолькі відавочна вар'яцтва намаганняў выхоўваць патрыётаў на самазабойстве чалавецтва.

Я не лічу сябе спецыялістам па выхаванні патрыётаў, але ўпэўнены: рабіць з вайны, з яе крывавых параз і тым больш крывавых перамог крыніцу патрыятычных пачуццяў — амаральная справа...

...Нехта абурацца: як можна браць грошы, нават такія мізэрныя, за патрыятычны ўздым на вышыню «ўсенароднай славы»?!

Гістарычна курганамі пазначаюцца месцы старажытных пахаванняў.

Цяжка сказаць, калі пад «Курганам Славы» будзе назаўжды пахаваны так званы савецкі патрыятызм. Вельмі танны патрыятызм, katораму, раптам высветлілася, грош цана.

У адрозненне ад таго вядзерца жоўтага ўперамешку з глінай і дробнымі каменьчыкамі пяску, што падсыпаў некалі ў падмурак памяці Ігар Садоўскі, якога так хутка дагнала вайна...

Вядзерца, якому няма цаны.

*kamerton_41@mail.ru*

# «Калі пачвары не стане, я вярнуся ў Мінск»

**Альгерд Бахарэвіч** прэзентаваў свой новы раман «Шабаны».

Канферэнц-зала Інстытута Гётэ набілася бітком — людзям давялося сядзець у праходах. Пры гэтым цягам дзвюх гадзінаў Альгерд Бахарэвіч проста чытаў фрагменты свайго новага рамана «Шабаны. Гісторыя аднаго знікнення». Ніякага шоу. Проста вялікая зала, за сталом сядзіць Бахарэвіч і чытае, а публіка захоўвае поўную цішыню.

Бахарэвіч чытае без мікрафона, і, адчуваецца, сам вельмі радуецца асабліва ўдалым месцам у кнізе — у гэты час на экране за ягонай спінай дэманструюцца фотаздымкі з Шабаноў мінскіх і «Шабаноў» гамбургскіх. Паміж урыўкамі гучыць музыка — фрагменты любімых песняў аўтара па 30–60 секундаў.

На імпрэзу прыйшла розная публіка: тут і студэнты, і пенсіянеры, і тыя, каму карцела паразмаўляць пра «Гамбургскі рахунак», той самы, у якім было нашумелае эсэ пра Каяна Лупаку. У апошніх нічога не выйшла — Бахарэвіч паабяцаў абмеркаваць «Рахунак» у верасні, калі той выйдзе кнігай.

Раман «Шабаны» мае некалькі сюжэтных ліній: у адной хлопец, які мусіць дайсці ад Зялёнага Луга да Шабаноў за ноч, у другой — жанчына, якая шукае мужа, што адправіўся выносіць смецце і знік, у трэцяй сам аўтар, якога мясцовыя алкашы, ведаючы, што ён сын інжынера, віталі з павагай словам «Здравствуйте!» і які цяпер жыве ў такіх самых Шабанах, толькі ў Гамбургу.

Калі нехта думае, што раман пра Шабаны абавязкова мусіць апавядаць пра гопнікаў, падрабязна апісваць папойкі і гэтак далей, то Бахарэвіч даказвае адваротнае. Ягоныя Шабаны з'яўляюцца нейкай асобнай тэрыторыяй — не горадам і не вёскай, дзе людзі жывуць сваім, спецыфічным жыццём, ходзяць у краму ў халатах і тапачках. Тэкст напоўнены нейкай інтэрнацыянальнай, характэрнай для Шабаноў усяго свету тугой, але туга тая бліжэйшая да меланхоліі, чым да дэпрэсіі.

Пасля чытанняў Бахарэвіч адказваў на пытанні слухачоў — тут стала абсалютна відавочна, што чытаць услых яму прасцей, чым адказваць на пытанні: як ён сам і казаў, чалавек ён скрытны, і размаўляць з людзьмі не вельмі любіць.

Адзінае пытанне, якое змагло яго разварушыць, тычылася эміграцыі. «Я з'ехаў не па грошы, а па свабоду, і з майго боку гэта быў маладушны крок, — кажа Бахарэвіч. — Калі я з'язджаў, я быў на мяжы зрыву, самагубства».




Сяргей Гудзілін

Вярнуцца на радзіму? Пакуль не можа гэтага зрабіць. «Я вельмі паважаю людзей, якія засталіся жыць у Беларусі, я захапляюся імі». Але сам вернецца ў Беларусь, толькі калі над краінай з'явіцца бел-чырвона-белы сцяг. «У той дзень, калі пачвары не стане, я вярнуся ў Мінск», — заявіў пісьменнік.

«Калі ў Беларусі скончацца цёмныя часы, то людзі, якія тут жылі і нікуды не збеглі, будуць радавацца чыстай вялікай радасцю. Гэта будзе іх заслужаная радасць. Я такой радасці перажыць не змагу, таму што буду ведаць, што я ўцёк», — дадаў Альгерд Бахарэвіч.

**Юрась Ускоў**



# «За-ста-ем-ся!»

**6 гадоў таму**, 20 сакавіка 2006 года, на Кастрычніцкай плошчы паўстала намётавае мястэчка.

Прэзідэнцкія выбары 19 сакавіка 2006 года вывелі на Плошчу дзясяткі тысяч абураных людзей. Нягледзячы на холад і завіруху, сабраліся і назаўтра. 20 сакавіка. Моладзь у адказ на нерашучае маўчанне палітыкаў гукнула «Застаемся!» і паставіла на Плошчы першыя намёты, вакол якіх шчыльным колам сталі людзі.

Мястэчка пад бел-чырвона-белымі сцягамі прастаяла ў цэнтры Мінска, насупраць рэзідэнцыі, да 24 сакавіка — у лютыя маразы, атачанае «ціхарамі», якія хапалі ўсіх, хто спрабаваў пранесці на Кастрычніцкую ежу і цёплую вопратку.

Напярэдадні Дня Волі нервы аднаго з бакоў процістаяння не вытрымалі: а 3-й ночы 24 сакавіка спецназ брутальна знішчыў намётавы гарадок, арыштаваўшы некалькі соцень яго насельнікаў. Больш за тысячу чалавек прайшлі ў тую вясну праз арышты і «суткі».

Многае тады было ўпершыню. Упершыню, напрыклад, пратэст замацаваўся на галоўнай, інаўгурацыйнай плошчы краіны, дзе некалі стаяў помнік Сталіну.

Плошча-2006 выглядала, пісаў палітолаг Віталь Сіліцкі, як «прарыў з раўнавагі лукашэнкаўскай аўтарытарнай сістэмы... праз пабудову маральных барыкад, выразных ліній супрацьстаяння паміж дабром і злом, і актывацыю чалавечага сумлення».

**Сяргей Мікулевіч**

# Купалаўскі паставіў «Людзі на балоце»

П'еса пра **каханне і каханне.**

«Людзі на балоце» ішлі ў Нацыянальным тэатры ад 1966. І вось яны зноў на сцэне, цяпер у пастаноўцы Аляксандра Гарцуева. Гэтым разам у цэнтры п'есы апынулася не столькі зямельнае пытанне, колькі любоўны трохкутнік Васіль — Ганна — Яўхім. Глядацкія водгукі пасля прэм'еры былі пазітыўнымі.

Для Гарцуева «Людзі на балоце» памятныя — роля Міканора ў пастаноўцы 1966 стала дэбютнай у ягонай тэатральнай кар'еры.

Гэтым разам Гарцуеў з сімпатыяй паказвае аднаасобнікаў — кожнаму з іх можна паспачуваць.

Па прызнанні акцёраў, якія выконваюць галоўныя ролі, і Яўхім, і Міканор — персанажы станоўчыя, якія пакутуюць ад уласных памылак. Васіля цяпер можна параўнаць з Яўхімам, хаця ў папярэдніх пастаноўках гэтыя вобразы кардынальна розніліся.

У спектаклі заняты цвет купалаўцаў: Раман Падаляка, Аляксандр Паўлаў, Валянціна Гарцуева, Вікторыя Чаўлытка, Арцём Бародзіч, Павел Харланчук, а таксама Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Гарбук, Зоя Белахвосцік і Аляксандр Падабед.

**ЮУ**

**Наступныя паказы «Людзей на балоце» адбудуцца ў Палацы культуры прафсаюзаў (пр.Незалежнасці, 25) 5 і 6 красавіка, але квіткі на іх здабыць няпроста.**

## Сцісла

### Быў час

Выдатны гісторык культуры Арсень Ліс распачаў публікацыю сваіх успамінаў. Для гэтага ён выбраў старонкі газеты «Новы час». Першая частка прысвечана гадам вайны. Мемуары пакуль не маюць адзінай назвы. Пачатак апублікаваны пад назвай «Дзіцячымі вачыма — вайна».

### Кліпы на «Не быць скотам»

...працягваюць карыстацца папулярнасцю ў інтэрнэце. Акрамя афіцыйнага, аматары песні вырабілі іншы — мульцяшны. Знайсці іх можна на Youtube.com.

### Пераможца «Залатой літары» — Сяргей Харэўскі

Прэмію, заснаваную ў 2004, атрымала кніга «Сто твораў XX стагоддзя. Нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу». Гэтая кніга шматгадовага мастацкага рэдактара «Нашай Нівы» пачынала друкавацца на старонках нашай газеты.

### Трыумф «Тройцы»

Этна-трыа «Тройца» з васьмі заяўленых намінацый перамагла ў пяці ў рэйтынгу найлепшай беларускай музыкі Experty.by. Ацэньваліся альбомы 2011.

### Стварыць сям'ю дапамог… Скарына

24 сакавіка споўнілася 70 гадоў прафесару Джыму Дынглі, шматгадоваму старшыні Англа-беларускага таварыства ў Лондане. Цікава, што са сваёй будучай жонкай Элай Дынглі пазнаёміўся на полацкай канферэнцыі ў гонар 500-годдзя Скарыны. Цяпер Джым з Элай жывуць у мястэчку Маргейт на ўсходзе Англіі, і маюць дзвюх дарослых дачок Алену і Аляксандру.

### Лямус у бядзе

Гродзенскія гісторыкі звярнуліся ў пракуратуру. Просяць адрэагаваць на кепскае захаванне ўнікальнага драўлянага будынка ў горадзе над Нёманам — так званага лямуса. Пасля апошніх гаспадароў, псіхдыспансера, унутры засталося смецце, затое няма ніякіх датчыкаў пажарнай бяспекі.

### «Басовішча» на тым жа месцы ў той жа час

Рок-фестываль у Гарадку, які ладзяць беларусы Польшчы, адбудзецца ў звыклым парадку, паведамілі арганізатары.

### Беларускі серыял купілі за 1,5 млн даляраў

Расійскі Першы канал гэтай зімой купіў правы на трансляцыю серыяла «Пацалунак Сакрата». Ён аб'ядноўвае 6 двухсерыйных тэлефільмаў.

**СМ**



# Край Беларусі.

**Паўсядзённае жыццё беларусаў на самай перыферыі краіны. Якое яно? Першая частка спецпраекта фатографа «НН» Сяргея Гудзіліна.**

Цэнтральны пляц Асвеі сустракае каробкай аўтавакзала па адным баку і закінутымі крамамі з выбітымі вокнамі па другім.

У аўтобусе «Верхнядзвінск — Асвея» ўсе прызнаюць ува мне чужога чалавека. Вячэрні рэйс збірае людзей па навакольных вёсках. Праз паўтара дзясятка кіламетраў на захад ад Асвеі — Еўрапейскі саюз і Латвія, на поўначы — Расія. Да Пскова адсюль бліжэй, чым да Мінска.

Першая згадка аб Асвеі — 1503 год, як мястэчка ў Полацкім раёне. У пачатку XX стагоддзя тут жыло больш за 4 тысячы чалавек. За Саветамі Асвея была райцэнтрам. Цяпер, згодна з перапісам 2010, — менш за паўтары тысячы жыхароў.

Гонар мястэчка — возера Асвейскае, другое па велічыні ў Беларусі.

**Асвея**

На думку географа В. Жучкевіча, тапонім «Асвея» ўтварыўся ад паняцця «звей» — звеяны пясок, не замацаваны расліннасцю (пераважна на беразе возера, ракі). Першы пісьмовы ўспамін пра Асвею змяшчаецца ў дамове паміж вялікім князем Аляксандрам і царом маскоўскім Іванам III і датуецца 1503.
Сёння ў Асвеі 1400 жыхароў.
У Асвеі працуюць сярэдняя школа, спецыяльная школа-інтэрнат, лякарня, Дом культуры, бібліятэка, шэраг магазінаў, сталоўка, аптэка.






**Коля і Іра жывуць нармальна.**

На возеры плошчай больш за 50 квадратных кіламетраў ёсць вялікі востраў. У гады сацыялістычнага будаўніцтва на ім стаяла цэлая вёска і калгас. З вялікай зямлёй сувязь была толькі з дапамогай парома. У 90-я тут яшчэ пасвілі кароў, але ў адну ноч маланка забіла ўвесь статак.

Рыбы раней было шмат. Але і цяпер беспрацоўныя жыхары ловяць яе і возяць прадаваць у Полацк — такі бізнес.

Мясцовы жыхар паказвае дарогу да майго жытла. Вуліца Профінтэрна — раён, забудаваны савецкімі трохпавярховікамі. З усяго Саюза сюды прыязджалі на працу на торфпрадпрыемства. Цяпер ад завода — адна ўзгадка. Яго з дзясятак гадоў таму разабралі на будматэрыялы. А людзі засталіся.

Галіна Францаўна і яе муж Анатоль — ужо пенсіянеры. Два дарослыя сыны вылецелі з бацькоўскага гнязда. Адзін — у Мінск, другі жыве недалёка. Часам прыязджаюць да старых... Так і вядуць сваю гаспадарку удваіх — у трохпакаёвай кватэры і хлявах непадалёк ад дома. Трымаюць розную жывёлу, акрамя каровы, — гады ўжо не тыя.

У Асвеі на больш чым тысячу чалавек толькі 7 кароў. Пра гэта мне расказала прадавачка ў дзяржаўнай краме... Сваё імя яна пасаромелася назваць. Прыехала сюды з Мурманска — мужа адправілі на торфапрадпрыемства працаваць. Глядзіць на працы LCD-тэлевізар, які можна набыць у крэдыт, але стаіць ён тут ужо даўно, раскладвае малаткі, пральны парашок і посуд па паліцах. Зарабляе 900 тысяч. Пад вясну ўсё часцей глядзіць на столь — цячэ дах крамы, а рамантаваць няма каму.

Летам сыходзіць у адпачынак за свой кошт і, як і іншыя асвяйчане, займаецца ягадным бізнесам.



**80-гадовая баба Паўліна сама прыбірае снег да капліцы — прыедзе ксёндз з Росіцы.**



**Дом у Асвеі можна купіць за 700 тысяч.**



**У святы па возеры катаюцца на конях.**

# Поўнач: Асвея



У качагарцы Іры і Колі.



Галіна Францаўна і яе муж Анатоль — падпісчыкі незалежнай прэсы.

Дзікія балоты і лясы тут добра родзяць. За сезон усёй сям'ёй зарабляе больш за свой гадавы заробак.

Мінск — гэта толькі сталіца і карцінка ў тэлевізары, падручніках і газетах. Нават школьная моладзь не замахваецца на яго. Мацнейшыя імкнуцца ў ВНУ ў Віцебск, слабейшыя — у ліцэі Полацка ці Верхнядзвінска.

У пятніцу ў Асвею прыязджае кірмаш. А 10-й раніцы на цэнтральным пляцы ставяць свае намёты гандляры. Асартымент нязменны — кітайскі рыштунак на ўсе выпадкі жыцця. Вельмі актуальна таксама танная паўсядзённая вопратка і абутак — часцей гэта «роба» і боты. За лепшым — трэба выбірацца ў Верхнядзвінск ці Полацк.

Міліцыі ці ўчастковага няма — у суседняй вёсцы жыве. Увесь час знаходжання ў Асвеі мяне не пакідала адчуванне адсутнасці ўлады. Яе тут проста няма, хіба што час...

Нават «чыноўнікі» з сельсавета — гэта не адасобленыя сваім жыццём бюракраты, а такія ж сяляне, як і ўсе навокал. З імі мацюкаюцца і спрачаюцца, як з усімі. «Чыноўнікі» нават не баяцца піць гарэлку сярод люду — няма сэнсу хавацца ды і дзе тут?

Асвейскі бар (ён тут ёсць) «Жамчужына» працуе ў двух рэжымах — удзень гэта крама, дзе школьнікі могуць папіць ліманада, а з вечара — месца, дзе суровыя асвейчане адпачываюць да 12 гадзін ночы.

Бліжэй да закрыцця бара мой суразмоўца Сяргей запытаўся: «Ці ўмееш ты біцца?» Я сказаў, што даўно не даводзілася. Бойкі на п'яную галаву пачынаюцца тут спантанна і часта. Гэта такі эмацыйны выхад і разрадка. Калі нешта разбіваюць, жанчына-прадавачка выганяе ўсіх на двор і замыкае бар — яна тут начальніца.

Пятніца і субота — дыскатэка ў мясцовым Доме культуры. Моладзі і так няшмат, а яшчэ і за квіток у 8 тысяч за музыку з магнітафона мала хто хоча плаціць. Зімой ходзіць па 3–5 чалавек — своеасаблівая VIP-тусоўка. Улетку, канечне, больш.

Коля і Іра — асвейская моладзь. Працуюць на пару качагарамі ў мясцовым калгасе. На дваіх пасля апошняга павышэння заробку атрымліваюць мільён трыста тысяч. На дваіх у іх адзін тэлефон. Ажаніліся два гады таму і набылі сабе сціплы дом без мураванай падлогі за 700 тысяч — у Асвеі гэта не праблема. Кажуць, што жывуць нармальна.



Дарога жыцця на лёдзе.

Коля часам п'е, але гэта тут таксама нармальна — пасля працы заняць сябе няма чым. Беднаватую хату зімой моцна прадзімае — таму топяць так, што дыхаць цяжка.

Каталікі імшу адпраўляюць у адрамантаваным корпусе былога манастырскага шпіталя. На нядзельнай імшы — 12 чалавек. Праваслаўная супольнасць моліцца ў сваім храме. Драўляную царкву перавезлі з суседняй вёскі на пачатку 90-х — гэта самая паўночная царква на Беларусі.

Нядзельны ад'езд з Асвеі быў аншлагавым — моладзь выязджала на вучобу. За пару гадзін да ад'езду сустрэў на вакзале групку школьнікаў. Хтосьці набыў ім піва. Пілі яго і палілі наўпрост у будынку аўтастанцыі — касірка пайшла на абед.

Падарожжа скончалася ў полацкім аўтобусе. Прыгнечаны перыферыйнай паўсядзённасцю, я вяртаўся ў іншы край, іншы свет — інтэрнэту, блізкага асяроддзя. Асвейская паўсядзённасць засталася ў іншым княстве.

*23–26.02.2012. Асвея — Мінск.*



Хлопчыку, які назваўся Славікам, на выгляд гадоў 10. Ён спрабуе страляць у мяне цыгарэты. Скардзіцца, як сумна ў школе і як дрэнна жыць з бабуляй-апякункай.

# Тупы, яшчэ тупейшы

Пра **нізкія балы** на ЦТ.

Усе спяваюць, танчаць, перамагаюць — заўсёды, паўсюль і ва ўсім! Усе самыя разумныя, а жанчыны — самыя прыгожыя. Дзеці кепска пішуць ЦТ? Адмяніць гэтае ганебнае ЦТ, і ўсё! Вы, беларусы, размаўляеце і пішаце не на сваёй роднай мове, гаворыце з акцэнтам і пішаце «пад акцэнт»... Ёсць у вас і гуглы, і яндэксы, і айфоны, і смартфоны з планшэтамі, але малпам таксама можна даць электронныя мікраскопы, якімі яны будуць паспяхова калоць арэхі. Без портак, але ў капелюшы: мора эканамістаў без эканомікі, акіян гісторыкаў, якія славяць чарговы росквіт, натоўпы кандыдатаў, дактароў навук і акадэмікаў без навукі...

Нават нанатэхналогіі ёсць без выкарыстання.

На беларускай няма тэрмінаў па фізіцы? Хімія па-беларуску не гучыць? Чамусьці ўкраінцы такіх праблем не ведаюць. Яны ведаюць і цэняць сваю мову. І латышы сказалі на рэферэндуме «так» сваёй роднай мове, а не «вялікай і магутнай» чужой. Беларусам застаецца «песть исчо по-рускю».

**Хочаце, каб дзеці паразумнелі? З чаго б ім разумнець?**

Хочаце, каб дзеці паразумнелі? З чаго б ім разумнець?

Якія бацька з маткай, такое і дзіцятка! Раней у кожным класе былі па 2–3 двоечнікі-дурні, цяпер — па 2–3 вучні з класа штосьці кемяць, а астатнія круцяць у руках свае мабільнікі-дэбільнікі. Радавацца трэба, што дзеці тупеюць: такім лягчэй жыць, такімі лягчэй кіраваць.

**Таццяна Карэліна, Мінск**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Дайце нам малако без вітамінаў!

У горадзе Горкі Магілёўскай вобласці пачаліся **праблемы з малаком**.

Да пэўнага часу малако ў нас было 1,5%, 2,5% і 3,2%. Гэта ўсіх задавальняла, асабліва пенсіянераў і малазабяспечаных (у якія мы ўсе сябе залічваем). А потым наш масласырзавод (думаю, не без ціхай згоды кіраўніцтва раёна) дадаў у малако вітамінныя дабаўкі (нібыта клапоцячыся пра нашае здароўе), і малако 1,5% пачало каштаваць 3730 руб., 2,5% — 4480 руб., а вось малако 3,2% наогул з прылаўкаў крамаў знікла, а з'явілася 3,6% па цане 4990.

Пытанне ў тым, для чаго гэтая махінацыя. Адказ просты: на вітамінізаванае малако нефіксаваная цана — можна народ спакойна «раздзяваць». А дзе нам купіць простае малако (без вітамінаў) тлустасцю 1,5, 2,5, 3,2%? Чакаю дапамогі і адказаў на пастаўленыя пытанні.

**М. Ішчук, Горкі**

# Без роднай мовы не будзе якаснай адукацыі

Забарона роднай мовы — гэта **шлях у каменны век**.

У № 10 ад 14-га сакавіка было пастаўлена пытанне да чытачоў, бацькоў, настаўнікаў: «Якія, на вашу думку, галоўныя праблемы ў сучаснай школе?»

Мой жыццёвы досвед сведчыць: хто б як ні казаў, чым бы ні апраўдваў альбо ні крытыкаваў нізкі ўзровень выпускнікоў школ, студэнтаў і далей спецыялістаў, не мае аніякай падставы, калі рубам не ставіцца, не падымаецца пытанне ведання роднай мовы і выкладання ўсіх прадметаў толькі на ёй, без усялякага выключэння, нават фізкультуры.

Я быў вельмі здзіўлены, калі са СМІ даведаўся, што ў Беларусі 13,3% насельніцтва наогул нават не ўмее чытаць па-беларуску, і гэта мы назіраем у XXI-м стагоддзі. Страшная статыстыка. Таму я цвёрда ўпэўнены, што да таго часу, пакуль родная беларуская мова не будзе адзінай дзяржаўнай у Беларусі, народ з цягам часу можа стаць зусім неадукаваным. Забарона роднай мовы — гэта шлях у каменны век. Таму той, хто сапраўды хоча атрымліваць веды і быць адукаваным чалавекам, павінен рашуча не на словах, а на справе змагацца за вяртанне Канстытуцыі 1994, бо менавіта там знаходзіцца ключ да ўсяго таго, каб нам адукаванымі людзьмі быць і звацца імі. На вялікі жаль, гэтага нават не разумеюць многія палітыкі дэмакратычнага кірунку.

**Мікола Канаховіч, Пружаны**

# Вуліца Беларуская

Пашаны беларусам ад гэтага не больш, **чым эскімосам ад эскімо**.

У Львове ёсць вуліца Руская. За польскімі каралямі там было гета для русінаў. Толькі на Рускай вуліцы ім было дазволена валодаць нерухомай маёмасцю.

Што ж спрычынілася да таго, што амаль у кожным беларускім горадзе ёсць вуліца Беларуская? Можа, там былі гета? Можа, беларусы паасядалі там, як габрэі на берлінскай Юдэнштрасэ?

Даўней у Віцебску была вулка Гразкая. Савецкая ўлада прыдумала для Гразкай новую назву — Беларуская, у гонар тытульнай нацыі. А ў Гомелі Беларуская — былая Пясочная. Залетась гразь на ёй накрылі асфальтам, каб разгрузіць суседнюю магістраль, але на захадзе машыны збочваюць з яе, і вуліца вядзе па калдобінах на задворкі шматпавярховых дамоў да трансфарматарнай будкі і кантэйнераў са смеццем. Каля плота канчаецца Беларуская вуліца ў Лідзе. Пашаны беларусам ад гэтага не больш, чым эскімосам ад эскімо, іракезам ад фрызуры панкаў, а шатландцам ад амерыканскай клейкай стужкі, якую дзеля анекдота назвалі скотч — шатландская.

А чаму ж у Вілейцы няма Беларускай вуліцы? Рэч у тым, што не толькі бальшавікі, але і фашысты дзеля вока нібыта апекаваліся беларусамі. У Вілейцы ў свой час гітлераўцы назвалі Беларускай былую вуліцу Пілсудскага. Праз тры гады камуністы перайменавалі яе ў Савецкую, а пераносіць назву з найстаражытнай вуліцы горада ў глухі закутак не сталі — крывадушнасць кідалася б у вочы.

Па ўсім свеце — ад Марселя да Сінгапура — ёсць Армянскія вуліцы. У Арменіі — няма. Бо выдумаць Армянскую вуліцу там усё роўна, што назваць вінаградным армянскае віно. А наш этнонім у назвах нашых вуліц прылічылі да адной катэгорыі з імёнамі меншавіка Пляханава і Сценькі Разіна, быццам беларусы не тытульная нацыя, а нейкая экзотыка, пра якую трэба нагадваць, каб не забыцца на яе, накшталт вышываных ручнікоў на вяселлі, дзе з дынамікаў раве Газманаў пра «Россию і свободу до конца».

**Сяргей Баранаў, Гомель**

# Беларуская глыбіня. **Зарок**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Цверазейце, чувайце, бо супраціўнік ваш д'ябал ходзіць, як рыклівы леў, шукаючы, каго праглынуць.*
*І Пятра 5:8*

Наш кіроўца, мужык талковы, у одуме. Усё збілася з тропу: машына ламаецца, у сям'і раптам бязладдзе, начальнік без дай прычыны надоечы вызверыўся. Карацей, жыццё дало расколіну. Раіцца, маўляў, ты ж вернік, ведаеш — можа, гэта з-за таго, што я распяцце без цвікоў набыў?.. Аказваецца, днямі ў краме да яго падышоў нейкі п'янтос, ледзь трымаецца на нагах і просіць: купі, за бутэльку. Распяцце матчына, хіба што дзіркі замест цвікоў... Глядзіш кіроўцу ў трывожныя шырокія зрэнкі і бачыш адну чорную дзірку.

Без цвікоў укрыжоўваюць, Госпадзе. Прапіваюць і спадчыну, і розум, і душу — калі б маглі, і Цябе прапілі б.

Тут, сярод замкаў ды пушчаў, п'юць, жлукцяць, квасяць, гасяць, бухаюць, заліваюць горла — бо зеўрае, зеўрае чорная дзірка ў сэрцы, а святое месца пуста не бывае. Рабочыя, вяскоўцы, «хімікі»... Не так адчайна і жорстка, як у Малым Сітне з «максімкай», але грунтоўна, паслядоўна, засяроджана, з яўнай мэтай калісьці дапіцца-такі.

**П'юць, жлукцяць, квасяць, гасяць, бухаюць, заліваюць**

А гэта ж не дзе-небудзь, менавіта тут, у беларускай глыбіні ў 1846—1848 пачаўся знакаміты Пружанскі антыалкагольны рух, які даў першы штуршок небываламу паводле размаху *цверазенню* ў 1850-я па ўсёй Расійскай імперыі.

Пра гэты самы «пружанскі бунт» як пачатак найбуйнейшай агульнарасійскай кампаніі абстыненцыі з гонарам паведамляе, між іншым, Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта РБ — і рэкамендуе выкарыстоўваць такі факт, уявіце сабе, на лекцыях «Адзінага дня інфармавання». Вядома, адной рукой, праз капеечную гарэлку, піўную рэкламу і батарэю бырла, падліваюць ды падліваюць (і не тое што закусіць — занюхаць не даюць), а другой, заграбаючы грошы ў касу, часам усплёскваюць: авохці, бяда!... вой, што твораць... П'юць жа, паскуды, ну што ты ім зробіш!..

Усё пачалося ў 1846-м у мястэчковых прыходах ды парафіях, з нейкім веяннем духу. Рэй вялі святары. Хопіць піць!.. Вёска за вёскай на заклік бацюшкі ці ксяндза беларус станавіўся перад алтаром ці абразом і заракаўся: болей не дакранацца да спіртнога. Так і ўяўляеш: глядзіцца чалавек у абраз — і вобраз і падабенства Божае ажываюць у ім самім.

А між тым *зарок* быў злачынствам: закон Расійскай імперыі забараняў даваць нейкія клятвы, апрача прысягі цару.

Масавае ацверазенне ахапіла спярша гістарычную Літву: на Гарадзеншчыне зарок далі 220 тысячаў сялянаў, на Віленшчыне — 140 тысячаў, на Міншчыне — 84 тысячы. Вакол цэркваў ды касцёлаў ствараліся таварыствы ці брацтвы цвярозасці. Кабакі зачыняліся праз адсутнасць прыбытку; чыноўнікі паўсюдна адзначалі рэзкі ўздым свядомасці і дабрабыту. І вось ужо шэф жандараў дакладае Аляксандру II: «Здарылася ў нас падзея, зусім нечаканая»...

З беларускіх земляў і Ковеншчыны рух цвярозасці перакінуўся на суседнія — і ўрэшце, да канца 1850-х гадоў ачомаліся 32 губерні Расейскай імперыі. Цвярэзнікі засноўвалі свае школы, прытулкі, стваралі касы ўзаемадапамогі — і, быццам з зародку, з зароку перад Богам стыхійна нараджалася самакіраванне. Месцамі адмова ад віна і гарэлкі прыняла да бунтаў: абураныя мужыкі грамадой грамілі манапольки. Урад, напалоханы размахам непадуладнага руху і стратай каласальных грошай (імперскі бюджэт трэснуў па швах), выправіў на падаўленне непітушчых рэгулярныя войскі. Звыш 11 тысячаў актывістаў руху былі арыштаваныя, бітыя розгамі і высланыя ў Сібір (з іх 780 — у беларускіх губернях).

Ані Раманавы, ані бальшавікі, ані Лукашэнка не адступілі ад загаду Івана Жахлівага: спойваць. Не будуць піць? Адключым газ.

«Ну, першы тост за Галоўнакамандуючага, ты ў курсе», — напаўголаса папярэджвае начальства пружанскіх вайскоўцаў на 23 феўраля. І тады, і цяпер дэманстратыўна не выпіць было выклікам. Толькі ходзіць, бродзіць нехта вакол, кружыць, як рыклівы леў, шукаючы, каго б праглынуць нагбом.

Пружанскія сяляне ўжывалі віно і хлеб у Прычасці — і прымалі Кроў і Плоць Хрыстовыя. Сёння віно без Бога і хлеб з відовішчамі ператвараюць беларуса ў жывёлу.

Няўжо лёс беларускай глыбіні — дапіць горкую чашу да дна, да поўнай п'яненькай рабскай павіннасці, да выраджэння асноўнай масы народа, да нацыянальнага гена алкагольнай залежнасці?

Ды не ўтопім мы нічога і нікога ў тае чарцы, апроч саміх сябе.

«Кадзіроўкі» ды палітінфармацыі — хіба апахмелка апасля дзяржаўнай палітыкі спойвання. А вось масавы рух, пачаты Царквой, у спалучэнні з падтрымкай сям'і і моладзевай модай на цвярозасць — насамрэч куды большая пагроза для існага рэжыму, чым уся сённяшняя апазіцыя.

Таму збляваць чорта, каторы ў глыбіні беларускай душы сушыць, і пячэ, і смокча, і ссе, можна адным-адзінюткім спосабам, ужытым простымі пружанцамі 165 гадоў таму, — не адкаркоўваць новую нульпяць, а адчыніць душу Богу.

*Куплін*

# Дарагія аўто ў Беларусі крадуць пад замову?

**Часцей іх вывозяць па запчастках у Расію.**

Днямі ў Брэсце мужчына застаўся без аўтамабіля «БМВ X5» (2011 года выпуску). 38-гадовы прадпрымальнік пакінуў аўто ў двары на ноч, а раніцай яго ўжо не было на месцы. Страты ацэнены ў 600 млн рублёў (каля $75 тыс).

Месяц таму ў Мінску ўгналі «Лексус GS300», удвая таннейшы. Гаспадыня аўто прыпаркавала яго на праезнай частцы і паставіла на сігналізацыю. На наступны дзень машыны не знайшла.

У зніклым аўтамабілі знаходзілася пасведчанне кіроўцы і ўсе дакументы на машыну. А яшчэ за месяц да гэтага ў аднаго з жыхароў гэтага ж сталічнага дома скралі «Таёту Лэндкруэзэр», цаной каля $100 тысяч.

У Беларусі з'явілася банда, якая крадзе дарагія аўтамабілі пад замову? Такі варыянт не выключаецца. Хаця дарагія машыны не з'яўляюцца тымі аўто, якія крадуць найчасцей. І не толькі таму, што іх нямнога. Яшчэ гэта звязана з павышанымі мерамі бяспекі, што ўстанаўліваюць уладальнікі машын.

На крадзяжах «БМВ», «Лексусаў», як правіла, працуюць групамі. Абсталяванне для ўгону такіх аўто — гэта даўно не фомкі і шурубніцы, а электронныя навінкі. Зладзеі карыстаюцца абсталяваннем для ўскрыцця аўто і запуску рухавіка, якое выраблаюць нелегальныя майстры. Для набыцця ж афіцыйнага абсталявання патрабуецца ліцэнзія.

Віктар, які раней займаўся аўтамабільным бізнэсам, расказаў пра магчымасці зладзеяў. Ён не выключае, што скрадзеныя аўто ўжо вывезлі ў Расію. Па яго словах, BMW, Toyota, Lexus — гэта маркі, якія летась ва ўсходніх суседзяў былі найбольш аблюбаванымі зладзеямі. Лічыцца, што дзве апошнія маркі проста скрасці з-за таго, што падрабіць да іх чыпы нескладана. Зрабіць тое можна нават на СТА.

Але найбольш верагодны варыянт, да якога звяртаюцца найчасцей, на думку Віктара, — аўтамабілі разбяруць на запчасткі. А ўжо пасля вывезуць за мяжу. Найперш — у Расію.



Частка ж запчастак можа заставацца і для айчыннага рынку. Так, летась у Беларусі была затрымана група, якая выкрадала аўто, а затым прадавала іх па запчастках. Па інфармацыі аператыўнікаў, лідарам групоўкі з'яўляўся прадпрымальнік, які афіцыйна займаўся пастаўкай запчастак да «БМВ» у нашу краіну.

**Кастусь Матушыч**

У вёсцы Узногі Баранавіцкага раёна знайшлі скрадзены ў Расіі «Лексус», коштам каля $140 тысяч. Месцазнаходжанне аўто вылічылі дзякуючы таму, што ў машыне знаходзіўся GPS-трэкер. «Лексус» знайшлі ў двары прыватнага дома. Мужчына патлумачыў, што аўто купіў. Яно аказалася сабраным з двух. На аўтамабілі стаялі беларускія нумары. Вядзецца праверка.

**Якія машыны найчасцей крадуць**

Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі склала рэйтынг аўтамабіляў, якія найчасцей зганялі ў 2011. Спіс узначалілі ВАЗ (419 аўто), Volkswagen (183), Audi (92), Opel (73), Ford (71), Mercedes (62) і «Масквіч» (48).

**Фотафакт**



СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Не палі!**

Пажарныя папярэджваюць: за незаконнае спальванне сухой расліннасці, траў, а таксама ржышча на палетках, ці за непрыняцце мер па ліквідацыі палаў, накладваецца штраф ад 10 да 40 базавых велічынь. Варта памятаць, што вясновыя палы наносяць шкоду прыродзе.

## Вынесены прысуд па справе выбуху на «Пінскдрэве»

**Ларана Арыніча ў судзе не было, ён знаходзіцца ў вышуку.**

Калегія Брэсцкага абласнога суда вынесла прысуд у дачыненні да трох былых службовых асобаў па справе аб выбуху на заводзе ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Пінскдрэў».

Былы дырэктар СТАА «Пінскдрэў-ДСП» Леанід Логвін, якога прызналі вінаватым у службовай халатнасці, асуджаны да чатырох гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Галоўны інжынер ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Пінскдрэў» Уладзімір Шастакоў атрымаў чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах пасялення. Тры гады ў калоніі ва ўмовах пасялення атрымаў галоўны інжынер «Пінскдрэў-ДСП» Ігар Логвін.

Асуджаныя былі прызнаныя вінаватымі ў парушэнні патрабаванняў пажарнай бяспекі, якое пацягнула за сабой гібель людзей і матэрыяльную шкоду.

Сваю віну былыя дырэктар і галоўны інжынер СТАА «Пінскдрэў-ДСП» прызналі часткова, былы галоўны інжынер холдынга — адмаўляе.

Крымінальная справа ў дачыненні да былога гендырэктара ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Пінскдрэў» Ларана Арыніча выдзелена ў асобную вытворчасць. На судзе яго не было — Арыніч знаходзіцца ў вышуку.

**БелТА**

Трагедыя

на заводзе СТАА «Пінскдрэў-ДСП» адбылася 25 кастрычніка 2010. Выбуховай хваляй разбурыла цэх па вытворчасці драўняна-стружкавых пліт, пашкоджана тэхналагічнае абсталяванне. Шкода перавысіла Br3,9 млрд (каля $1,2 млн на момант здарэння). У выніку здарэння 14 чалавек загінулі, 21 пацярпеў.

## Пажарны цудам выратаваў дзіця, якое выпала з акна

**Выпадак адбыўся ў Баранавічах.**

Пажарны інспектар падпалкоўнік унутранай службы Віталь Пераход прымаў новы пандус для інвалідаў-вазочнікаў, піша «Брестская Газета». Ён скончыў працу і накіроўваўся ад дома да аўтамабільнай стаянкі. І тут заўважыў у адкрытым акне другога паверха маленькага хлопчыка. Дзіця пачало падаць уніз, але пажарны зрэагаваў імгненна — падбег і злавіў малога.

У той момант бабуля хлопчыка правала бялізну ў адным з пакояў, а старэйшы брат глядзеў тэлевізар. Магчыма, хлопчык прыйшоў на кухню, у якой нікога не было, і залез на акно.

«Дзякуй Богу, што ўсё так скончылася, у мяне няма слоў, каб выказаць падзяку чалавеку, які выратаваў маё дзіця», — сказала газеце Intex-press мама хлопчыка, якая, як аказалася, выхоўвае яшчэ траіх дзяцей.

Па словах суседзяў, сям'я станоўчая, а тое, што адбылося — проста недарэчная выпадковасць, якая, на шчасце, скончылася добра.

**СМ**

### Сцісла

**Забойства столінскай школьніцы яшчэ не расследавалі**

Васьмікласніцу задушылі ў навагоднюю ноч. Як паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Беларусі Павел Траулька, справа забойства Юліі Ляшук пакуль не перададзена ў суд. А новыя акалічнасці расследавання злачынства не агучваюцца ў тым ліку па просьбе бацькоў дзяўчынкі.

**Дзіўны выпадак у Плешчаніцах**

25 сакавіка ў рэанімацыю Лагойскай бальніцы даставілі мужчыну 1970 г. н. з моцнымі апёкамі. Ён расказаў медыкам, што ехаў на сваім «Фальксвагене» па Плешчаніцах. У нейкі момант «адчуў недамаганне, спыніўся, абліў салон аўтамабіля бензінам і падпаліў яго». І загарэўся сам. Здарылася гэта побач з домам мужчыны.

Дзіўным выпадкам займаецца міліцыя.

**15-гадовая ўзяла ў суседа аўто і разбілася насмерць**

У суботу ў Маларыцкім раёне загінула школьніца. Дарослы сусед дазволіў падлеткам пакатацца на яго́ным аўто. 15-гадовая вучаніца 9 класа Арэхаўскай школы не справілася з кіраваннем, і аўто некалькі разоў перакулілася. Дзяўчына загінула на месцы. Яе сябры (хлопец, 1993 г.н. і дзяўчына, 1996 г.н.) ацалелі.

**Супрацоўнік БТ «абгаварыў» кампанію на 29 мільёнаў**

Міліцыя распачала крымінальную справу ў дачыненні да супрацоўніка БТ, які «нагрэў» прадпрыемства, карыстаючыся яго мабільнай сувяззю. Паводле следства, падазраваны ад студзеня 2010 года да 31 снежня 2011 года, здзейсніўшы крадзеж пяці SIM-карт, якія належаць Белтэлерадыёкампаніі, на працягу двух гадоў карыстаўся паслугамі сувязі аператара сотавай сувязі ЗП «Вэлком». За гэты час на пяці картах, якімі карыстаўся хітрун, было выпрачана больш за 29 мільёнаў рублёў.

**КМ**

## ФУТБОЛ

### 2 тур

**У суботу 31 сакавіка** сустракаюцца:
БАТЭ (Барысаў) — «Белшына» (Бабруйск)
«Нёман» (Гродна) — «Мінск»
«Шахцёр» (Салігорск) — «Гомель»
«Тарпеда-БелАЗ (Жодзіна) — «Нафтан» (Наваполацк)
**1 красавіка:**
«Дынама» (Мінск) — «Славія» (Мазыр)

## ІМПРЭЗЫ

### Вясна БНТУ

**Фестываль студэнцкай творчасці «Вясна БНТУ»** пройдзе 29, 30, 31 сакавіка і 2 красавіка ў актавай зале 11-га навучальнага корпуса. Вас чакае свята інструментальнай музыкі, свята песні, свята студэнцкіх тэатраў эстрадных мініяцюр, а таксама свята танца...

## КАНЦЭРТЫ

### Gods Tower

**30 сакавіка а 19-й у клубе Re:Public** — Gods Tower.

### Чысты голас

**29 сакавіка а 19-й у к/з «Мінск»** — вакальны гурт «Чысты голас».

### Тузін Unplugged

**29 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — Тузін Unplugged.

### Neuro Dubel

**30 сакавіка а 19-й у Rocker Bar (Талбухіна, 4, 3 паверх)** — Neuro Dubel.

### Велікодны канцэрт

**31 сакавіка а 19-й у канцэртнай зале «Верхні горад» (пл.Свабоды, 25)** — Велікодны канцэрт.

### Рыгору Шырму

**3 красавіка а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** — канцэрт, прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Р.Шырмы.

### Вечар французскай камернай музыкі

**4 красавіка а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — вечар французскай камернай музыкі.

## ВЫСТАВЫ

### Выстава мастакоў «Пагоні»

**Да 11 красавіка ў памяшканні новай Сядзібы БНФ (Чарнышэўскага, 3)** працуе выстава мастацкай суполкі «Пагоня», прымеркаваная да 94-х угодкаў абвяшчэння БНР ды 148-й гадавіне з дня смерці Кастуся Каліноўскага. У экспазіцыі дэманструюцца 24 творы жывапісу і графікі сябраў творчай суполкі «Пагоня»: Алеся Мары, Генадзя Драздова, Віктара Мікіты, Хведара Ладуцькі, Натальлі Белавокай, Уладзіміра Крукоўскага, Алеся Шатэрніка.

### Каляровая нізка

**У малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 31 сакавіка** працуе выстава мастацкага тэкстылю «Каляровая нізка». Работы, падрыхтаваныя для гэтай выставы, створаныя на аснове традыцыйнай культуры тэкстылю Беларусі, традыцый народнага ўзорнага ткацтва (тэхнікі: падвойнай, пераборнай, выбарнай) і беларускай класічнай шпалеры, вышыўкі, тэкстыльнай мазаікі і роспісу, з выкарыстаннем аўтарскіх мастацка-стылістычных і тэхналагічных прыёмаў, а таксама разнастайных як традыцыйных, так і нетрадыцыйных матэрыялаў: поўсць, лён, баваўняная нітка, джут, сізаль, сінтэтыка, кераміка і іншыя.

### Яно тут

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 47а) да 30 сакавіка** працуе персанальная выстава Антаніны Слабодчыкавай «Яно тут». Антаніна Слабодчыкава не першы год правакуе беларускага і замежнага гледача сваімі яркімі непаўторнымі працамі. Каханне, вера, узаемаадносіны паміж людзьмі, узаемадзеянне мастацтва і гарадской прасторы, сацыяльна арыентаванае мастацтва — асноўныя тэмы яе мастацкіх даследаванняў. Жывапіс, калаж, відэа, перформанс…

### Кветкі раю

**Да 1 сакавіка ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Кветкі раю», на якой можна ўбачыць малюнкі па шкле, маляваныя дываны са збораў музея народнай архітэктуры і побыту.

### Мастацтва пачынаецца з малога

**Да 9 красавіка ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Мастацтва пачынаецца з малога», на якой можна будзе ўбачыць беларускі жывапіс XX стагоддзя з прыватных калекцыяў.

### Трапічныя мятлушкі

**Да 22 красавіка ў Доме-музеі I з'езда РСДРП** працуе выстава жывых трапічных мятлушак. На выставе можна ўбачыць мятлушак з Паўднёва-Усходняй Азіі, Аўстраліі і Амерыкі.

### Іван Шышкін: жывапіс і графіка

**Да 9 красавіка ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Іван Шышкін: жывапіс і графіка». На выставе прадстаўлена 30 жывапісных работ майстра. Таксама будуць экспанавацца эцюды, сярод графічных аркушаў будуць выстаўленыя як арыгінальныя працы — малюнкі, акварэль, — так і друкаваныя (афорты і літаграфіі).

### Hand Made

**31 сакавіка і 1 красавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** адбудзецца выстава-продаж Hand Made. Вас чакаюць цікавыя падарункі і два дні бясплатных майстар-класаў. Арганізатары запрасілі майстроў, творы якіх ствараюць сапраўды вясновы настрой. Вы ўбачыце арыгінальныя паштоўкі, мяккія цацкі, упрыгожанні, крэатыўнае вязанне…



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# «Рок-Каранацыя» вяртаецца ў Маладзечна

Апошні раз такое было тры гады таму — тады «Рок-Каранацыя» ўпершыню прайшла не ў «казе» «Мінск», а ў Палацы культуры Маладзечна. **31 сакавіка** эксперымент паўтораць — арганізатары «Каранацыі» лічаць, што маладзечанская публіка можа пераўтварыць цырымонію ў сапраўднае свята.

Пры гэтым «Рок-Каранацыя» ізноў мяняе фармат — калі ў мінулым годзе яна ўяўляла з сябе падвядзенне вынікаў за ўсю гісторыю рок-н-рола эпохі незалежнасці, то ў 2012 журы абярэ рок-гурт года, альбом года, гурт-прарыў, поп-рок гурт, песню года і падзею года.

У канцэрце возьмуць удзел: Drum Ecstasy, Znich, Akute, ZM99, Аляксандр Кулінковіч, а таксама гурт J-морс, якому арганізатары аддалі ўсю другую палову шоу. Па-першае, «морсы» ніколі на «Каранацыі» не выступалі, а па-другое, яны, відаць, самая папулярная каманда з тых, якія свабодна гастралююць у Беларусі.

Цана квіткоў — ад 60 000 да 90 000 рублёў. Тэлефоны для даведак (029) 254-49-09, (029) 671-58-65. Пачатак а 18.



### Таемныя забавы сярэднявечча

**1 красавіка з 12-й да 19-й у Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** адбудзецца тэатралізаванае прадстаўленне «Таемныя забавы сярэднявечча». Бяруць удзел: Тэатр Свята Люсерж, Мінская кінашкола-студыя, тэатр «Плутаўскі Тэатр Ды Грыза», тэатр танца «Фламея», клуб гістарычнай рэканструкцыі «Гівойт», гурт сярэднявечнай музыкі «Тутэйшыя», акрабатычны дуэт «Ангелы Чарлі».

## ТЭАТРЫ

### 30 сакавіка

**Лялек** — «Асцярожна, свіння»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Жызэль»

### 31 сакавіка

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Оперы і балета** — «Жызэль»

### 1 красавіка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 2 красавіка

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 3 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Happy Valentine»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»

### 4 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Оперы і балета** — «Эсмеральда»

### 5 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Оперы і балета** — «Алека. Балеро»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 6 красавіка

**Лялек** — «Чайка. Спроба прачытання»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Спартак»

### 7 красавіка

**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»

## КІНО

### Натхнёныя Мінатаўрам

**Галодныя гульні** (The Hunger Games)
ЗША, 2012, каляровы, 142 хв.
**Рэжысёр:** Гэры Рос
**Ролі выконваюць:** Джэніфер Лоўрэнс, Джош Гатчэрсан, Вудзі Гарэльсан, Элізабэт Бэнкс, Стэнлі Тучы, Дональд Сазэрлэнд, Ліам Гемсворт, Лені Кравіц
**Жанр:** Фантастыка, антыўтопія
**Адзнака:** 7 (з 10)

У недалёкім мінулым, каб трымаць бедныя правінцыі пад кантролем, багаты цэнтр патрабуе штогадовай даніны. 12 раёнаў мусяць дасылаць па юнаку і дзяўчыне на «Галодныя гульні». У гульні мусіць выжыць толькі адзін. Кітніс і Піт, які ўпотайкі ў яе закаханы, становяцца ўдзельнікамі галоўнага відовішча дэспатычнай краіны. Сьюзан Колінз прызналася, што на гісторыю яе натхніў міф пра Мінатаўра, якому аддавалі юнакоў і дзяўчат.

Смяротныя бойкі ў стужцы падрэзаныя — каб падлеткаў не шакаваць. Злыя сабакі і вогненныя пасткі гульні — дынамічныя, але на ўскрайку. Затое жалоба па маленькай дзяўчыне — самая моцная сцэна фільма. Фантастычная трылогія Сьюзан Колінз абяцае стаць заўважнай падлеткавай кінападзеяй. Першы фільм ужо выйшаў.

**Андрэй Расінскі**



# Ровары, зробленыя сваімі рукамі

**27-гадовы Аляксей Барысевіч за два гады арганізаваў у Мінску ўласную вытворчасць ровараў.**


Цэх «Боракса»

У арандаваным у «Мотавела» памяшканні на 120 квадратных метраў стэрыльная чысціня. На падлозе стаяць гатовыя ровары. Гэта вытворчы цэх прыватнай кампаніі Borax. Заснавальнік кампаніі, 27-гадовы Аляксей Барысевіч (з яго ініцыялаў, дарэчы, і складаецца назва) з такім запалам пачынае ўсё паказваць і расказваць, што праз 5 хвілін прыдбаць байк яго вытворчасці здаецца жыццёва важнаю справай.

«Ровар укаціўся ў маё жыццё вельмі рана, — расказвае Аляксей, не выпускаючы з рук сябра дзяцінства. — Мой бацька працаваў у сферы веласпорту яшчэ пры савецкай уладзе і адзін час нават быў веламеханікам у зборнай БССР. А бізнес пачаўся са звычайных амбіцый. Хацелася рабіць нешта сваё і пры гэтым атрымліваць кайф».

У рэалізацыю мары Аляксей на першым этапе ўкладаў уласныя грошы. Потым трапіў пад праграму падтрымкі маладых вытворцаў і атрымаў крэдыт ад прыватнага банка. Цяпер у яго кампаніі працуюць сем чалавек. На гарачы час вясновалетняга сезона бяруць яшчэ пяць працаўнікоў.

## Бізнэс пачаўся са звычайных амбіцый



«Спадарожнік».


Аляксей Барысевіч.

Колькі ровараў усяго прадалі, Аляксей дакладна не кажа, але намякае: «лік ідзе на тысячы». Паказнікі спартовых велікаў больш сціплыя — «дзясяткі». Затое каштуюць яны не 1,7 мільёна, а $2100 за штуку. Калі «Спадарожнікі» купляюць «студэнты, дальнабойнікі, дзядулі, бабулі», то спартовымі цікавяцца пераважна прафесіяналы рознай ступені паспяховасці.

Планы ў кампаніі класічныя: наладзіць больш шчыльныя зносіны са спажыўцамі Расіі ды Украіны. Аднак і Беларусь, паводле Аляксея, — краіна з вялікім роварным патэнцыялам. «Людзі пачынаюць звяртаць увагу на ровар як на рэальны сродак перамяшчэння, а не як на лячэбную фізру, — кажа бізнесовец. — Беларусы таксама пачынаюць усведамляць: акрамя піва і тэлевізара, ёсць безліч цікавых рэчаў. Чаму б не праехацца ўвечары на ровары? Амстэрдамам, вядома, Мінск у бліжэйшыя гады не зробіцца, але дагнаць Польшчу і Прыбалтыку магчыма».

Ад сваёй справы Аляксей, здаецца, атрымлівае неверагоднае задавальненне. «Летась у нас быў першы паўнавартасны сезон. Мы не чакалі такога попыту. Здаралася, самому прыходзілася ў выходныя круціць гайкі, — апісвае стаханаўскі перыяд свайго жыцця малады бізнесовец. — Працую сем дзён на тыдзень, у будні — з 9.00 да 21.00. Але калі ты нешта любіш і гэтае нешта належыць табе, заўсёды знойдуцца час, сілы і энтузіязм. Хоць часу паездзіць на ровары ў мяне цяпер амаль няма».

**34mag.net**



# Салярыі выйшлі з моды

**А медыкі ўздыхнулі з палёгкай.**

«Светлы тон скуры зараз больш актуальны», — кажа Аляксандр Кірынюк, кіраўнік салона прыгажосці. Гэта тэндэнцыя прыйшла з Захаду. На паказах высокай моды часцей сустракаюцца мадэлькі з «адбеленымі» з дапамогай макіяжу тварамі, чымсьці таніраванымі ў «сонечныя» адценні.

Сам Кірынюк у салярый не ходзіць нават задарма, хоць мае яго пад бокам. Зрэшты, беларускаму «салярнаму» бізнесу яшчэ рана згортвацца.

«Большасць дзяўчат, якія ў гэтым не разбіраюцца, якія думаюць, што рыжая ці цёмная скура — гэта модна, будуць і далей хадзіць туды», — мяркуе стыліст.

Апантаных загарэлай скурай празвалі «танарэксікамі» (ад англ. «тан» — загар). Танарэксія — гэта своеасаблівая псіхалагічная залежнасць ад ультрафіялету. «Хварэюць» пераважна маладыя дзяўчаты, а таксама тыя, хто наведвае салярый часцей за 2 разы на тыдзень і больш за 10 хвілін.

Ультрафіялетавае выпраменьванне можа стаць прычынай развіцця раку скуры і іншых анкалагічных захворванняў. Таму салярый супрацьпаказаны ўладальнікам вялікай колькасці радзімак і пігментных плямаў.

Да таго ж, ультрафіялет разбурае калаген — бялок, адказны за эластычнасць скуры, што прыводзіць да фотастарэння. У выніку разам з роўным загарам вы рызыкуеце атрымаць дадатковыя 3—5 гадоў да вашага ўзросту.

Калі вы ўсё ж ідзяце ў салярый, то трэба выконваць частату і працягласць наведвання, якія адпавядаюць вашаму тыпу скуры. А таксама выкарыстоўваць ахоўную шапачку для валасоў, акуляры і «сцікіні» (налепкі на смочкі).

Альтэрнатывай салярыю можа быць імгненны загар. Гэта выйсце, калі вам карціць пахваліцца «шакаладнай» скурай, але няма часу і жадання падстаўляць цела пад ультрафіялет. З дапамогай адмысловага пісталета вас «пафарбуюць» у жаданы колер фарбай-крэмам (на аснове выцяжкі з цукровага трысняга). Такое «салодкае» пакрыццё трымаецца на скуры 4 дні і паступова змываецца. Цана — 180—200 тысяч рублёў.

**Аксана Рудовіч**

## Прыватныя абвесткі

### ВІНШАВАННІ

**Віншаванні Сцебураку Міколу** з нагоды 55-годдзя ад сыноў і сяброў. Пажаданні моцы і настрою! Няхай стаіць Вялейка і жыве вольная Беларусь!

### ВІТАННІ

**Любыя Змітрок Б. і Зоська В!** На нашым месцы сустрэч не магу знайсці рыфмы да 5 і 10 слоў. Ваш Максім Б.

### ПРАДАЮ

**Прадаю кнігу** з тлумачэннем на Біблію (у тым ліку і на кнігу «Адкравенне») і тлумачэннем пытанняў веры. Вельмі добрая, 670 стар., з хатняй бібліятэкі, у добрым стане. Кошт 39000. Дашлю поштай. Т.: 8-0212-25-80-79.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!




Актывісты «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» запусцілі пад купал гандлёвага цэнтра «Сталіца» нацыянальны сцяг. Акцыя была прымеркаваная да Дня Волі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы ладзіць конкурс «Міс універсітэт-2012». Студэнткі сфатаграфаваліся ў вобразах баксёркі, паляўнічай і круп’е.



У Верхнім горадзе ўзводзяць «сацыяльна-бытавы» паркінг. На чатыры гады распланавана будоўля на месцы былых Базыльянскіх садоў. Кіраўніцтва горада адкінула прыгожую ідэю аднавіць на гэтым месцы яблыневы сад. Паркінг не будзе высокі, каб не разбураць ансамбля Старога горада. Але і разынкі ў такім нававбудзе няма.




PHOTO.BYMEDIA.NET

На Дзень Волі ў Мінску прайшоў з’езд прыхільнікаў еўразійскай інтэграцыі. Сабралася такіх 59 чалавек. Старшынёй абраны рэдактар сайта imperiya.by Юры Баранчык.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Анекдоты

* * *

Беларусы, хопіць быць планктонам. Прыйшоў час дзейнічаць! Уставайце і ідзіце дадому.

* * *

Шушкевіча за мяжу не пусцілі за тое, што не прыходзіў па пенсію.

* * *

Чаму БТ налічыла на Дні Волі толькі 200 чалавек? Бо вуснае лічэнне ў Акадэміі міліцыі не праходзяць. А палачкі на аркушыку ставіць не паспявалі.

* * *

Часам некаторым асобам карону на галаве хочацца паправіць рыдлёўкай.

* * *

Самыя багатыя людзі — гэта курцы, п’яніцы і аўтамабілісты. Бо колькі ні падвышай цэны, яны кураць, п’юць і ездзяць.

* * *

Алень, што зачапіўся ў горадзе за драты, прабег па маршруце 40-га тралейбуса.

* * *

— А ты ведаеш, што рогі ў аленя пачынаюць расці толькі пасля дасягнення паловай сталасці?

— У чалавека таксама...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Бель. Горацкі павет.** У святы, замаркоціўшыся на хутарах, хутаране прыйшлі да вяскоўцаў пачасаць языкі. Вось адзін з іх і заспорыў аб тым, што яго піпка куды лепшая, чым у яго суседа-вяскоўца. Ну і пачалі крэмсаць адзін аднаго па санках. Вяскоўцу памаглі свае; свае памаглі і хутараніну, ды ладна падзялілі паміж сабой бубашак: каля 10 піджакоў і кашуль парвалі, не лічачы парваных твараў, паламаных галоў і рук.

**«НН». №12. 1912.**

**Андрэй Клімаў вызвалены 25 сакавіка 2002 з турмы.** «У турме я ўсвядоміў адну рэч — чалавек моцны духам. Я вельмі верыў, што нарэшце выйду на свабоду, і я выйшаў, зараз я бачу і веру ў тое, што ў Беларусі ёсць каму адстойваць яе незалежнасць, ёсць каму змагацца за эканамічны росквіт. Нам ёсць куды ісці, нам ёсць што вымятаць з нашага дома. Жыве Беларусь!»

**«НН». №12. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»: З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ: 220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

Падпісны індэкс:
індывідуальны — 63125
для прадпрыемстваў — 631252



Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 27.03.2012.
Замова №1356.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12